

Г. М. Сагановіч

# Войска Вялікага княства Літоўскага у XVI-XVII ст.ст.

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

*Г. М. Сагановіч*

# Войска Вялікага княства Літоўскага ў XVI-XVII стст.



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1994

ББК 68.49(4 Беи)
С 13
УДК 355(476) (091)«15/16»

Навуковы рэдактар
доктар гістарычных навук Г. В. Штыхаў

Рэцэнзенты:
кандыдаты гістарычных навук
Э. М. Зайкоўскі, А. К. Краўцэвіч

**Сагановіч Г. М.**

С 13 Войска Вялікага Княства Літоўскага ў XVI—XVII стст. / Пад рэд. Г. В. Штыхава.— Мн.: Навука і тэхніка, 1994.— 79 с.: іл.

ISBN 5-343-01244-3.

На падставе дакументальных крыніц і малавядомых даследаванняў асвятляюцца гісторыя ўзброеных сіл Вялікага Княства Літоўскага XVI—XVII стст., сістэма мабілізацыі і арганізацыя войска, віды вайсковых сіл і іх узбраенне. Асаблівая ўвага звяртаецца на вайсковыя фармаванні з тэрыторыі Беларусі.

Разлічана на шырокае кола чытачоў.

3550000000—061
С————————112—93 ББК 68.49(4 Беи)
М 316(03)—94

ISBN 5-343-01244-3

# УСТУП

За сваю гісторыю зямная цывілізацыя перажыла амаль 15 тысяч войнаў, у якіх загінула больш за 3 640 000 000 чалавек. Войны вырашалі лёсы цэлых народаў і ўжо ў старажытнасці прыцягвалі асаблівую ўвагу гістарыёграфаў. Але толькі ў XIX ст. з агульнай гісторыі грамадства выдзелілася ваенная гісторыя як самастойная галіна гістарычнай навукі з асобным прадметам і метадамі даследавання. У многіх краінах Еўропы ваенная гісторыя ад пачатку мела дзяржаўную апеку, і цяпер, пасля дзесяцігоддзяў дынамічнага развіцця, яна валодае ўжо цэлым камплектам уласных дапаможных дысцыплінаў (гэта, у прыватнасці, ваеннае мовазнаўства, храналогія, метралогія, геральдыка, эпіграфіка, вексілялогія, фалерыстыка, мундзюразнаўства, зброязнаўства і г. д.).

Ваенная гісторыя як навуковая дысцыпліна структурна складаецца з двух вялікіх раздзелаў — гісторыі войнаў і гісторыі вайсковасці. Прадметам першай з'яўляюцца ўсе без вынятку войны — іх прычыны, характар, хада і вынікі. Другая ж даследуе войска (яго арганізацыю, склад, узбраенне, тэхніку і г. д.), ваеннае мастацтва (баявыя дзеянні войска, спосаб іх падрыхтоўкі і правядзення, гэтак званую тактыку і стратэгію), а таксама ваенную думку і навуку.

Асаблівае значэнне ў ваенна-гістарычных даследаваннях належыць вывучэнню войска — галоўнага аб'ектыўнага фактара кожнай вайны як такой. Усялякія ваенныя падзеі ёсць вынік дзейнасці ўзброеных сілаў, войска. Як спецыяльная ўзброеная арганізацыя людзей войска — з'ява гістарычная, выразна абумоўленая сацыяльна. Першабытныя людзі яго не ведалі. Войска з'явілася на пэўнай ступені развіцця чалавечага грамадства — у эпоху ваеннай дэмакратыі, і ад пачатку было функцыянальна звязана са структурамі ўлады. Паў-

стаўшы як арганізацыя для вядзення вайны ў інтарэсах публічнай улады, яно стала не толькі атрыбутам, але і паказальнікам жыццяздольнасці кожнай дзяржавы. Хоць у гісторыі сярэднявечнай Беларусі войны былі фактарам пастаяннага ўздзеяння, у айчыннай гістарыяграфіі ні яны, ні войска яшчэ не сталі прадметам спецыяльнага даследавання. У сучаснай гістарычнай літаратуры з'явіўся шэраг артыкулаў, прысвечаных адно паасобным аспектам вайсковасці, перадусім — узбраенню [1], а таксама даследаванне М. А. Ткачова па арганізацыі абароны ў беларускіх гарадах [2]. Ваенная гісторыя як самастойная навуковая дысцыпліна ў нас яшчэ не сфармавалася.

Між тым адэкватнае пазнанне і разуменне мінулага Беларусі наўрад ці магчымае без самага ўважлівага вывучэння войнаў. Іх значэнне для гістарычнага лёсу беларускага народу цяжка пераацаніць. Агульная працягласць войнаў, у якіх удзельнічала Вялікае Княства Літоўскае, у XVI ст. склала больш за 40 гадоў, а ў XVII ст.— больш чым паўвека. Пры гэтым у XVI ст. тэатрам ваенных дзеянняў падчас амаль кожнай вайны была тэрыторыя Беларусі, і амаль кожная змяняла ўсходнюю мяжу Вялікага Княства. Наогул, пачатак XVI ст. з прычыны серыі цяжкіх абарончых войнаў стаў пачаткам фактычна новай эпохі для Вялікага Княства — эпохі няроўнага супрацьборства, якое няўхільна вяло дзяржаву да поўнага заняпаду.

XVI—XVII стст.— асабліва важны перыяд як у гісторыі беларуска-літоўскага гаспадарства, так і ў развіцці яго вайсковасці. Менавіта тады ўзброеныя сілы Вялікага Княства перажывалі моцны ўплыў заходне-

---

[1] Заяц Ю. А. Зброя блізкага бою, рыштунак конніка і верхавога каня з раскопак Заслаўя // Помнікі культуры. Новыя адкрыцці. Мн., 1985. С. 183—190; Краўцэвіч А. К. Комплекс зброі і рыштунак XIII ст. з-пад Гродна // З глыбі вякоў. Наш край. Мн., 1992. С. 40—46; Ласкавы Г. В. Узбраенне воінаў XII—XIII стст. з феадальных сядзіб-замкаў паўночнага захаду Полацкай зямлі (па матэрыялах раскопак гарадзішчаў Пруднікі і Маскавічы) // Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992. С. 47—57; Ласкавый Г. В. К истории оружия Белорусского Подвинья в VI—XIII вв. // Полоцкий Летописец. 1993. № 1(2); Ткачоў М. А. «Зброя» гарадскіх жыхароў Беларусі ў часы сярэдневякоўя // Из истории науки и техники Белоруссии. Тез. докл. конф. Мн., 1988. С. 181—183; Трусаў А. А. Зброя Лідскага замка // ПГКБ. 1980. № 2. С. 26—27.

[2] Ткачев М. А. Организация обороны городов Белоруссии XIV—XVIII вв.: Автореф. дис. ... д-ра ист. наук. Мн., 1987.

еўрапейскай традыцыі, у ваеннай сферы быў засвоены шэраг тэхнічных новаўвядзенняў, з'явіліся невядомыя раней, тыпова заходнееўрапейскія віды войска — конніца новага тыпу, пяхота з агнястрэльнай зброяй, артылерыя стала вырашаць зыход многіх палявых бітваў. Аднак асаблівасці дзяржаўна-палітычнай сістэмы Вялікага Княства Літоўскага і некаторыя вонкавыя фактары стрымлівалі развіццё яго ўзброеных сілаў, надавалі ім пэўную спецыфіку.

Якім было войска Вялікага Княства арганізацыйна, структурна, колькасна, а галоўнае — якімі былі яго баявыя якасці і як канкрэтна яны выяўляліся ў войнах? Высвятленне гэтых пытанняў дазволіць уявіць патэнцыяльныя магчымасці абароны беларуска-літоўскай дзяржавы, дапаможа зразумець, ці заканамернымі былі паражэнні Вялікага Княства Літоўскага ў супрацьстаянні з Маскоўскім царствам, а таксама некаторыя іншыя аспекты беларускай гісторыі.

# 1. АРГАНІЗАЦЫЯ ЎЗБРОЕНЫХ СІЛАЎ АСНОЎНЫЯ ГРУПЫ ВОЙСКА

## ПАСПАЛІТАЕ РУШАННЕ

Асновай узброеных сілаў Вялікага Княства Літоўскага ў познім сярэднявеччы заставалася паспалітае рушанне, ці абарона земская. Так называлі службу ваеннаабавязанай часткі насельніцтва. Кожны абывацель Княства, які валодаў зямлёю, мусіў адбываць вайсковую павіннасць — гэтак званую земскую службу. Яе памеры вызначаліся велічынёй зямельнага надзелу і колькасцю сялянскіх гаспадарак, што належалі землеўладальніку. Колькасць ратнікаў была прапарцыянальнай колькасці ўласных сялянскіх службаў (служба — адзінка абкладання павіннасцямі, якая ўключала два ці тры сялянскія дымы (здаралася, што колькасць дымоў у службе магла дасягаць сямі і васьмі), або гаспадаркі). Ад кожных васьмі, а потым дзесяці службаў (у 1502 г. наваградскі сойм упершыню вызначыў норму — дзесяць службаў, у 1528 г. віленскі сойм зменшыў яе да васьмі, соймы 1551 і 1554 гг. пастанавілі браць каня з дзевяці, аднак пасля была зноў вернута старая норма земскай павіннасці) патрабавалася выстаўляць па аднаму добра ўзброенаму і экіпаванаму конніку («каню»). Той землеўладальнік, які не меў нават васьмі службаў, мусіў ехаць у войска адзін, узброены паводле сваіх магчымасцей. Ад асабістай службы вызваляліся толькі хворыя, непаўналетнія ці занятыя на дзяржаўных пасадах. Абавязак «вайну служыці» пашыраўся нават на ўладанні духавенства. Вольнымі ад удзелу ў паспалітым рушанні былі ваяводы, старасты і дзяржаўцы памежных раёнаў, у якіх знаходзіліся замкі.

Апрача абавязковых коней (тых, што ставіліся прапарцыянальна памеру зямлі) паны маглі выстаўляць дадатковую колькасць ратнікаў — ужо не з павіннасці, але «на ласку господарскую», добраахвотна.

Асноўную частку паспалітага рушання ў XVI—XVII стст. складала дробная і сярэдняя шляхта. Аднак ваеннай павіннасцю былі ахоплены і мяшчане. Гаспадарскія гарады мусілі таксама высылаць сваіх ратнікаў у земскае апалчэнне. Напрыклад, прывілей на магдэбургскае права, выдадзены Ваўкавыску ў 1507 г., абавязваў жыхароў горада «на вайну хадзіці, паводле уставы, як і з іншых местаў». Мяшчане Полацка, якія валодалі зямлёй, у 1528 г. выстаўлялі ў земскае войска 139, а ў 1552 г.— 49 коннікаў. Часта замест абавязку пасылаць ратнікаў гарады абкладаліся асобным падаткам. Акрамя ўдзелу ў апалчэнні гарадская абшчына



Кафля XVI ст. (прамалёўка) са стылізаванай выявай беларускага войска. З раскопак Г. В. Штыхава на гарадзішчы Менка

выконвала шэраг абавязкаў па мясцовай абароне. Звычайна ўсе мяшчане мусілі трымаць у дамах зброю — ручніцы, рагаціны, сякеры ды інш. У многіх гарадах, найперш памежных, да ўвядзення магдэбургскага права існавала асобная катэгорыя мяшчан, якія пастаянна неслі дапаможную ваенную службу. Гэта так званыя мяшчане конныя, баяры ці слугі панцырныя. Яны былі ў Полацку, Віцебску, Магілёве, Кіеве і іншых гарадах. Але ў XVI ст. такія групы мяшчан паступова зніклі. Засталіся слугі замкавыя і путныя, якія служылі за зямлю, атрыманую ў гарадской рысе, ці за карыстанне замкавай пашняй. У некаторых гарадах на Дзвіне старажавую службу неслі таксама казакі (у Полацку на замку ў 1552 г. рэестр зафіксаваў шэсць казацкіх службаў).

На пачатку XVI ст. земскую службу яшчэ адбывалі і сельскія войты. Але простае сялянства амаль не ведала ваенных павіннасцей. Толькі ў рэдкіх выпадках, як, напрыклад, у гады Полацкай вайны, гаспадарскія сяляне былі абавязаны падвозіць правіянт, рамантаваць дарогі, выконваць іншыя дапаможныя працы (20. С. 788). Так што само палявое земскае войска ўтваралася практычна адным ваенна-служылым станам — шляхтай.

Пытанне аб скліканні ўсяго паспалітага рушання з мэтай баявых дзеянняў (яно прызначалася толькі дзеля абароны, а не для інвазіі) належала да кампетэнцыі вальнага сойму (як, зрэшты, і ўсе пытанні аб вайне, аб зборы серабшчызны). «А без сойму и позволенья всих станов войны вщинати и вести не маем»,— сцвярджалася ў адпаведным артыкуле аб абароне земскай Статута 1588 г. (14. С. 102). Толькі пасля таго, як усе станы (паны, сярэдняя і дробная шляхта ды сам гаспадар) у згодзе прымалі рашэнне аб мабілізацыі, манарх высылаў універсалы ў паветы і ваяводствы, у якіх паведамляў пра месца і час гуртавання войска. У гаспадарскім універсале за 1522 г., напрыклад, пісалася: «...слухи до нас дошли с украин наших, штож дей неприятель наш Московский землям нашым шкоду чинит и со всими своими людьми береться моцно на панство нашо великое князство Литовское, а про то приказуем вам, аж бы есте того часу, ничого не мешкаючы, на службу нашу поготовы были, кони бы есте держали сыты в зброи чисты, и как вас другим листом нашим обошлем, на

который час на положеное местцо кажем вам быти, аж бы есте на тот рок на том местцу конне а збройне были...»

У XVI ст. гэта маглі рабіць і паны-рада, потым — гетман. Зборам павятовых харугваў кіравалі харужы і кашталян (галоўным чынам першы), якія затым перадавалі апалчэнне ваяводзе. Буйныя землеўладальнікі, што прыводзілі вялікі ўласны аддзел коннікаў, не ўваходзілі ў павятовую харугву, а выступалі са сваім почтам. З ваяводстваў злучаныя харугвы рухаліся да месца галоўнага збору і пераходзілі пад уладу гетмана. Там праводзілася рэгістрацыя ўсяго сабранага войска (складаўся палявы попіс), пасля чаго яно лічылася гатовым да баявых дзеянняў. Кожны ратнік мусіў трымацца



Шляхцічы паспалітага рушання Вялікага Княства Літоўскага XVII ст. Мал. С. Харэўскага

сваёй павятовай харугвы, быць пры сваім харужым і нікуды не адлучацца без дазволу гетмана (14. С. 101—111).

Соймавыя ўхвалы і адпаведныя артыкулы статутаў вызначалі пэўную норму ўзбраення ратнікаў. Кожны мусіў выступаць «зо всим на добром кони, што бы конь стоял наименшей осм коп грошей литовских, а на нем сукня цветная, панцер, прылбица, мечь, павеза, древо с прапорцем цветным» (Статут 1566 г.). Аднак рэальны стан узбраення, зафіксаваны палявымі попісамі, значна адрозніваўся ад патрэбнай нормы і быў далёка не стандартны.

Што да конніцы, дык попісы 1565 і 1567 гг. адрознівалі некалькі тыпаў узбраення земскага войска: «збройно по усарску», «по козацку», а таксама «по кашубску». У кожным з гэтых тыпаў — даволі ўстойлівы набор узбраення, аднак попіс не пералічвае яго цалкам. Для коннікаў, узброеных па-гусарску, звычайна фіксуюцца толькі тарча і дрэўца (дзіда), радзей узгадваюцца яшчэ панцыр і прылбіца, для тых жа, хто выстаўлены па-казацку,— панцыр, прылбіца, сагайдак, шабля і рагаціна, але часцей пазначаны толькі сагайдак ды рагаціна (10. Слп. 238—254, 431—462 і інш.). Менавіта наяўнасць дзіды і тарчы ў адных і лука з калчанам (або і рагаціны) у іншых была галоўным адрозненнем двух узораў узбраення — гусарскага і казацкага. Іх мела большасць коннікаў. Вершнікі, выстаўленыя па-кашубску, з'яўляліся блізкай да казакаў, але больш лёгкай кавалерыяй. Часта рэестр не называе тып узбраення, а толькі пазначае, што коні «збройныя», г. зн. у засцерагальнай зброі — панцырах, прылбіцах, з тарчамі. Толькі ў пасобных выпадках зафіксаваны дарагія «зброи бляховы», што азначае пласцінкавыя металічныя даспехі (10. Слп. 460, 466 і далей), затое іншыя вершнікі былі ўзброены зусім бедна — «в скурках з ощепы» (10. Слп. 433). Аб некаторых сцісла запісана: «кляча, мечь, рогатина» (10. Слп. 1180). Агнястрэльная зброя земскай конніцай практычна яшчэ не выкарыстоўвалася. Праўда, ужо ў 1579 г. на аглядзе войска пад Дзіснай, праведзенага С. Батурам, у вершнікаў мусіла быць па пісталету.

Пешыя ратнікі («драбы»), паводле попісаў, мелі ручніцы, вошчапы, мячы, сякеры, але ўвесь гэты камплект разам амаль не фіксуецца. Звычайна драб высту-

паў з ручніцай і сякерай, з ручніцай і вошчапам або толькі з адной агнястрэльнай ці халоднай зброяй. Увогуле, набор узбраення пяхоты бяднейшы, чым конніцы. Асабліва рэдка сустракаюцца даспехі: толькі ў паасобных выпадках — «драбы ...в зброех бляховых». У гэтым сэнсе ратнікі земскай службы моцна саступалі найманай пяхоце.

Наогул у соймавых ухвалах XVI ст. аб абароне земскай і ў адпаведных раздзелах статутаў пералічаны даволі багаты камплект зброі, якая шырока выкарыстоўвалася тады земскім войскам Вялікага Княства (пра што сведчаць і попісы): прылбіца, шышак, панцыр, павеза, тарча, рагаціна, меч, корд, шабля, шпага, кінжал, пулгак («пуйнал»), ручніца, аркебуза і лук. У Статуце 1588 г. ужо не фіксаваліся панцыр, прылбіца, павеза, тарча і рагаціна (павеза і некаторыя іншыя віды ахоўнай зброі на той час выходзілі з ужытку).

Камандаваў паспалітым рушаннем Княства гетман найвышэйшы (у XVII ст.— вялікі), хоць вышэйшая ўлада над войскам належала вялікаму князю і каралю, які мог дзяліць яго на часткі, вызначаць для кожнай асобную задачу, нават высылаць рушанне за межы дзяржавы, як у 1620 г., што супярэчыла асноўным прынцыпам арганізацыі земскай службы. Здаралася, што манарх і збіраў рушанне без адпаведнай ухвалы сойму (51. Cz. 1. S. 92). Канцылярыя манарха і вышэйшае вайсковае камандаванне былі адасобленыя. Чын гетмана найвышэйшага маглі атрымаць, як таго вымагаў закон, толькі «годныя и досветчоныя люди народу шляхетского, **родичи стародавние тутошнего паньства»** (падкрэслена аўтарам.— *Г. С.*). Харужымі таксама прызначаліся толькі «родичи властные того панства» (14. С. 103). Гэтым войска Вялікага Княства аберагалася ад непасрэдных умяшанняў Кароны Польскай.

Кампетэнцыі гетмана найвышэйшага як галоўнага правадыра войска былі значна пашыраны ў часы панавання С. Батуры, калі гэтая пасада стала пажыццёвай, а гетман атрымаў функцыі ваеннага міністра (камплектаванне ўзброеных сілаў, выкарыстанне серабшчызны, нагляд за станам памежных замкаў, а ў XVII ст. і ўся справа падрыхтоўкі цэлага краю да вайны). У часе вайны падпарадкаванае яму войска было ў поўнай уладзе гетмана, якому належала права суда і смяротнага пакарання. Праўда, ініцыятыва гетмана ўсё ж абмяжоў-

валася манархам, без адпаведнай санкцыі якога нельга было ні ствараць войска, ні весці перамовы з непрыяцелем.

У часе міру у мэтах кантролю і падтрымкі баяздольнасці рушання праводзіліся агляды і попісы войска па ваяводствах і паветах. Попісам мусілі займацца харужыя, на якіх была ўскладзена ўся адказнасць за бяспеку паветаў, або маршалкі. Хоць правядзенне попісаў прызначалася даволі рэгулярна, да рэалізацыі такіх рашэнняў даходзіла вельмі рэдка.

Падтрымка дысцыпліны ў войску і рэгуляванне яго дачыненняў з цывільным насельніцтвам забяспечваліся нормамі ваеннага права, кадыфікаванымі ў статутах, а таксама «Артыкуламі вайсковымі». Яшчэ на пачатку XVI ст., калі войны з Маскоўскай дзяржавай вымагалі ад Вялікага Княства максімальнай мабілізацыі сілаў, шляхта не паддалася некаторым патрабаванням цэнтральнай улады, што адбілася на характары выпрацаваных тады ваенна-прававых нормаў. Калі соймавая ўхвала 1507 г. прызначыла смяротнае пакаранне за самавольны ад'езд шляхціча з вайны (як і за нез'яўленне на месца збору рушання), дык ужо ў 1522 г. сойм мусіў замяніць смерць канфіскацыяй маёнтка, бо абсентызм стаў такой шырокай з'явай, што смяротнае пакаранне проста нельга было выкарыстоўваць. Таму і прадугледжаная III Статутам сістэма пакаранняў за вайсковыя правапарушэнні адрознівалася ад адпаведных нормаў суседніх дзяржаў сваёй мяккасцю. Смяротная кара ўжывалася толькі ў тых выпадках, калі ратнік учыніў забойства, згвалціў жанчыну, параніў ці збіў шляхціча або святара. За такое важкае парушэнне дысцыпліны, як уцёкі з поля бою, вінаватага чакала толькі страта маёнтка і шляхецкае годнасці (14. С. 107). За няўдзел у вайне, ухіленне ад попісу, недазволены ад'езд з войска шляхціччу пагражала таксама толькі канфіскацыя земскіх уладанняў. Для параўнання варта адзначыць, што тагачаснае права ў Маскоўскай дзяржаве прадугледжвала смяротную кару за ўзброены бунт, непадпарадкаванне, здраду, здачу горада непрыяцелю, прыём замежных людзей і проста зносіны з імі. За ўхіленне ад службы ратнікі высылаліся ў Сібір, за многія іншыя правапарушэнні ім пагражала адсяканне частак цела, турэмнае зняволенне, а шэраг артыкулаў Улажэння 1649 г. патрабаваў «бити кнутом нещадно», што на прак-

тыцы скончалася забойствам абвінавачаных, бо лік удараў не вызначаўся.

Колькасць паспалітага рушання ў Вялікім Княстве ў XVI ст. можна вызначаць на падставе вядомых попісаў земскага войска 1528, 1565 і 1567 гг. Калі першы быў складзены ў гаспадарскай канцылярыі і ўяўляе з сябе пералік баяраў Беларусі, Літвы і Украіны, а таксама лік коней, якіх яны абавязаны выстаўляць, дык другі і трэці зафіксавалі рэальны стан узброеных сілаў. У попісе 1565 г. зарэгістравана войска, якое збіралася да гетмана Мікалая Радзівіла паміж Ракавам і Трабамі. Апошні рэестр таксама рабіўся ў полі, у Красным Сяле, калі ў чэрвені 1567 г. гетман Рыгор Хадкевіч пачаў збіраць земскую службу каля Маладзечна і Лебедзева.

У попісе 1528 г. зарэгістравана 19 844 ратнікі, з якіх 11 214 — шляхта, 7 757 — почты магнатаў (10. Слп. 1 — 232). Але гэта была не ўся земская служба дзяржавы (без харугваў з Падляшша і зямель Украіны — Валыні, Падолля, Кіеўшчыны). Польскі гісторык Т. Корзан са спасылкай на Ю. Любамірскага падаваў на 1529 г. 24 446 чалавек паспалітага рушання (38. S. 86). Іншы даследчык — Ф. Папее дапускаў, што земская служба Вялікага Княства Літоўскага мусіла сягаць 40—60 тыс. На думку ж папскага нунцыя Ругіеры, гэтая дзяржава ў XVI ст. магла б выставіць нават 70 тыс. земскага войска, але на практыцы добра, калі збярэ хоць палову ад гэтага (51. Cz. 1. S. 95).

Полацкая вайна запатрабавала ад Вялікага Княства максімальных ваенна-фінансавых высілкаў «для обороны и валки потужное». Агульнае паспалітае рушанне, якое даўно стала перажыткам і ўжо зусім не з'яўлялася сапраўды агульным апалчэннем усяго шляхецкага стану, зноў і зноў дэманструючы нізкія баявыя якасці, заставалася, аднак, асновай абароны краіны. Раз за разам прымаліся ўхвалы аб яго мабілізацыі, у прыватнасці на вальных соймах 1563, 1565, 1566 і шэрагу наступных гадоў, прычым у 1566 г. праблемы абароны разглядаліся ажно на трох соймах. Аднак у поле да гетмана найвышэйшага не з'язджалася і палова той колькасці, якую мусіла мець земскае войска.

Неабходнасць узняць баяздольнасць войска вымушала прымаць ухвалы аб дадатковым падатку («пагалоўшчыне») дзеля найму жаўнераў, а таксама павялічваць нормы павіннасцей (у 1563 г. кожныя 20 службаў мусілі

выстаўляць акрамя двух коннікаў яшчэ аднаго пяхотніка з ручніцаю і рагацінаю ці сякераю, у 1566 г. па аднаму драбу былі абавязаны выставіць не толькі 20 земскіх службаў, але і 10 мяшчанскіх дымоў). Аднак гэтыя захады практычна не выводзілі састарэлую арганізацыю абароны краіны з крызісу.

Самым поўным зборам ваенных сілаў стала мабілізацыя 1567 г., калі, паводле ўхвалы Гарадзенскага сойму, войска Вялікага Княства зграмадзілася пад Маладзечнам і Лебедзевым дзеля контрнаступу — выправы на Маскву. Мяркуючы па крыніцах, тут сабралася 47 тыс. ратнікаў, з якіх больш за 30 тыс.— земскай службы (11. Слп. 431—1378). Але і гэта была далёка не поўная рэалізацыя мабілізацыйных магчымасцей дзяржавы. Зусім адсутнічалі коні з акупаванай царом Полаччыны. Аршанскі павет прыслаў толькі шэсць вершнікаў і тры драбы, бо ўся іншая шляхта засталася бараніць аршанскі замак. З Мазырскага павета з'явілася толькі 24 кані і шэсць драбаў.

Сабранае ў 1567 г. войска, на думку Г. Лаўмяньскага, складала толькі 30 працэнтаў патэнцыяльна магчымай колькасці ўзброеных сілаў дзяржавы (42. S. 457). Але большай арміі Вялікае Княства так ніколі і не сабрала. Наадварот, колькасць паспалітага рушання пастуova змяншалася. У Полацкай выправе 1579 г. ад Беларусі і Літвы бралі ўдзел 11 тыс. шляхецкага рушання (з іх 2 тыс. пяхоты), а таксама дзесяцітысячнае войска магнацкіх почтаў (8 300 конніцы і 1 700 пяхоты). У паходзе на Вялікія Лукі ў 1580 г. усё войска Вялікага Княства сягала 25 680 чалавек, у складзе якіх харугвы шляхты і магнацкія почты налічвалі па 10 тыс. (астатнія — наймiты). У паходзе на Пскоў (1581—1582 гг.) ад беларуска-літоўскай дзяржавы ўдзельнічала ўжо толькі дваццацітысячная армія.

У XVII ст. замест паспалітага рушання ваяводствы і паветы ўсё часцей выстаўлялі найманае войска, у некалькі разоў меншае за земскае. Напрыклад, калі ў 1596 г. менскае ваяводства выставіла на барацьбу з казакамі С. Налівайкі 781 чалавека земскай службы, дык у 1651 г.— харугву найманых казакаў (120 чалавек). Полацкая шляхта таксама замест сябе выслала харугву наймітаў. Пры гэтым велічыня харугваў, якія выстаўляліся замест паспалітага рушання, як і тэрмін іх службы, не былі вызначаны цэнтральнай уладай — усё вы-

рашалі павятовыя соймікі. Калі паспалітае рушанне наваградскага ваяводства, паводле попісу 1651 г., налічвала 1 210 ратнікаў, дык выстаўленае шляхтай у 1655 г. найманае войска складалася са 100 гусараў і 200 казакаў.

Згодна з падлікамі Ю. Можы, у 1648—1653 гг. на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага (296 435 км$^2$) жыло 4 546 368 чалавек, з іх 235 412 — шляхты (5,2 працэнты ад усяго насельніцтва). Годных да вайсковай службы мусіла быць прыкладна 10 працэнтаў, г. зн. 23 тыс. Так што нават пры поўнай мабілізацыі ў сярэдзіне XVII ст. шляхецкае рушанне Беларусі і Літвы колькасна моцна саступала арміям суседніх дзяржаў.

Між тым земскае войска Вялікага Княства ў XVII ст. толькі змяншалася, бо ўхіленне шляхты ад службы было ўжо зусім звычайнай з'явай. Асабліва дрэнна паказала



Шляхціч Рэчы Паспалітай з шабляй, сагайдакам і баявым малатком. З гравюры XVII ст.

сябе паспалітае рушанне падчас інвазіі цара Аляксея Міхайлавіча. Ужо летам 1654 г. насуперак універсалу вялікага гетмана Януша Радзівіла шляхта ехала не да яго абозу пад Оршу, а «разбягалася ў свет», або заставалася дома, адмаўляючыся пакідаць межы свайго павета ці ваяводства (51. Cz. 1. S. 100). З усяго віленскага ваяводства толькі віленскі павет праслаў войска да Радзівіла, але з той казацкай харугвы пятая частка складу яшчэ да пачатку дзеянняў была небаяздольнай.

Тэрытарыяльны прынцып фармавання паспалітага рушання, калі ў адной харугве былі і гусары (коннікі, узброеныя па-гусарску), і казакі, і пяцігорцы, таксама моцна паніжаў баяздольнасць такога войска. Толькі летам 1654 г. прынялі ўхвалу аб тым, каб ад кожнага павета выстаўляць па чатыры асобныя харугвы — гусарскую, рэйтарскую, казацкую ды пяхотную (4. С. 332). Але на практыцы павет столькі не выстаўляў. У ліпені 1655 г. на універсал Януша Радзівіла да яго ў Вільню прыслалі: лідскі павет — харугву гусараў і харугву казакаў па 100 чалавек, ашмянскі — па харугве гусараў і казакаў (у кожнай па 200 вершнікаў), наваградскі — харугву казакаў (200 шабляў), ваўкавыскі і слонімскі таксама па харугве казакаў на 100 чалавек.

Нягледзячы на нізкія баявыя якасці, дрэннае ўзбраенне, кепскую дысцыпліну і марудную мабілізацыю, земская служба заставалася апошнім рэзервам, на які можна было спадзявацца ў разе браку войска найманага. У соймавай канстытуцыі 1621 г. паспалітае рушанне было сімвалічна названа «апошняй абаронай перад наступаючымі паганскімі наваламі».

Апрача дзяржаўнага шляхецкага апалчэння ў XVII ст. усё шырэй практыкаваўся збор павятовага паспалітага рушання. Яно ўтваралася на падставе соймікавай ухвалы, калі дзяржаўнае войска не гарантавала бяспекі павету. Нормы павіннасці былі розныя. У Полацкім павеце ў 1653 г. кожныя тры службы ставілі па аднаму ратніку з мушкетам, сякерaю і харчам на чатыры дні. Павятовая шляхта замест сябе магла наймаць на сабраныя грошы жаўнераў, набіраючы як мясцовых, так і чужаземцаў. Такое войска звычайна наймалася на тэрмін ад трох да шасці месяцаў і аплочвалася вышэй, чым дзяржаўнае. Арганізацыйна яно нічым не вылучалася: харугва мела свайго ротмістра, паручніка, харужага і таварышаў з почтамі. Кіравалі павятовым ру-

шаннем мясцовыя ўраднікі. Камандзіра найманай харугвы шляхта абірала сама. Напрыклад, у 1626 г. ашмянская шляхта прызначыла ротмістрам Сцяпана Зяновіча і даручыла яму вербаваць гусарскую харугву з 200 чалавек (51. Cz. 1. S. 113).

Падчас небяспекі павятовыя харугвы ўтвараліся і сілаю гетманскага або каралеўскага універсалу. Улетку 1655 г. Януш Радзівіл пісаў да шляхты Пінскага павета, каб «панове самыя як найхутчэй купіліся ды сваімі ўласнымі грудзьмі баранілі свае хаты» (2. С. 42).

## НАЙМАНАЕ ВОЙСКА

Калі ў Польшчы, дзякуючы ўхвалам Пётркаўскага сойму 1562—1563 гг. і згодзе Жыгімонта Аўгуста, на абарону паточную выдаткоўвалася чацвёртая частка даходаў ад каралеўскіх сталовых маёнткаў (кварта, адсюль назва войска — «кварцянае»), што ўтварыла фінансавую аснову для існавання рэгулярнага дзяржаўнага войска, дык у Вялікім Княстве Літоўскім проста не было пастаянных грашовых фондаў на яго ўтрыманне. Але, нягледзячы на гэта, харугвы найманых жаўнераў з'явіліся тут ужо ў часы княжання Аляксандра Казіміравіча. Наймалі іх пры вострай неабходнасці, выкарыстоўваючы зборы ад спецыяльных падаткаў — серабшчызны, лановага і падымнага (з 1649 г.), татарскага і жыдоўскага пагалоўнага, якія паступалі ў скарб дзяржавы, і інш.

Арганізацыя найманых аддзелаў Вялікага Княства была гэтакай самай, як і ў Польшчы. Яна грунтавалася на сістэме таварыства. Пасля працы соймавай камісіі, якая мусіла вызначыць колькасць платных жаўнераў і агульную суму на іх утрыманне, пісаліся лісты да правадыроў будучага войска. Кожны ротмістр, камандзір харугвы конніцы ці роты пяхотнікаў, паводле адпаведнага гаспадарскага ліста, набіраў сабе таварышаў, якія прыходзілі з уласнымі почтамі. Почт, складзены з таварыша і пяці-шасці пачтовых, быў найменшай арганізацыйнай адзінкай такой конніцы. Звычайна ў адну роту ўваходзіла 100—200 вершнікаў, і прыкладна 25 з іх былі таварышамі. З афіцэрскіх чыноў у роце меліся ротмістр, яго паручнік, харужы і бубеніст.

У пяхоце першаснай арганізацыйнай адзінкай быў дзесятак, які складаўся з дзесятніка (таварыша) і дзе-

вяці пяхотнікаў (пачтовых). У роце звычайна налічвалася блізу 200 чалавек. Ротмістр і паручнік мелі коней, як і пара іхніх ардынарцаў. У кожнай роце былі таксама харужы і бубеніст. Зброяй шараговага складу лічыліся ручніца (ці аркебуза), шабля, корд, сякера. Афіцэры мелі па шаблі і пісталету, а дзесятнік — алебарду. У паходзе кожную роту суправаджала прыкладна 20 вазоў (па адным на дзесятак жаўнераў), якія везлі прадукты харчавання, боезапасы, інжынерна-сапёрскі рыштунак.

Паколькі набор жаўнераў звычайна зацягваўся на некалькі месяцаў, пачатак кожнай кампаніі, як правіла, затрымліваўся. Такая марудная мабілізацыя, безумоўна, не спрыяла поспеху ваенных дзеянняў. Яна адразу



Пяхотнікі Вялікага Княства Літоўскага XVII ст. Мал. С. Харэўскага

рассакрэчвала для непрыяцеля час і маштаб запланаванай акцыі.

Калі ў Заходняй Еўропе ў сярэдзіне XVI ст. найманае войска складала ўжо да 80 працэнтаў узброеных сілаў і вырашала зыход бадай усіх бітваў, у Вялікім Княстве панавала старая феадальная форма ваеннай арганізацыі. Сталага войска тут практычна не было. Толькі на ўсходніх межах дзяржавы ў замках сядзелі пастаянныя залогі агульнай колькасцю не больш за 2 тыс. чалавек. У часе вайны на сродкі гаспадарскага скарбу трымалася так званае «надворнае войска» — колькі тысяч найманай конніцы.

На пачатак Полацкай вайны найманае войска Вялікага Княства налічвала некалькі, а ў 1564 г.— 4 тыс. коннікаў. Пазней, згодна з ухваламі з'езду ў Трабах і Гарадзенскага сойму, яго колькасць мусіла б павялічыцца не менш як да 15 тыс., аднак гэтае рашэнне засталося не выкананым.

Практычна да канца 1578 г. колькасць усіх найманых жаўнераў Вялікага Княства, якія знаходзіліся ў Беларусі, Літве ды Інфлянтах, так і не перавысіла 4 тыс., але нават на іх утрыманне не хапала фінансаў у скарбе. Палову гэтай лічбы складалі жаўнеры, якія сядзелі ў замкавых залогах. На час вайны колькасна залогі былі вельмі кволыя. Адно толькі ў Віцебску і Дрысвятах мелася па 250 чалавек, у Мсціславе, Дрысе і Уле — па 150, у Оршы, Гомелі і Лепелі — па 100, у шэрагу ж іншых гарадоў (Крычаў, Барысаў, Браслаў, Сураж), нават у Вільні, службу неслі залогі па 50 ратнікаў. Толькі пасля вызвалення Полацка гарнізоны ў замках паўночнай Беларусі былі ўмацаваны (у Полацку засталося 500, у Віцебску — 400, у Дзісне — 330 жаўнераў і г. д.). Але сталыя залогі з найманага жаўнера з'явіліся ў беларускіх гарадах значна пазней: у Магілёве — з 1632 г., у Полацку — з 1636 г. і г. д.

Толькі з прыходам С. Батуры ды ў выніку праведзенай ім рэарганізацыі арміі найманае войска пачало выконваць галоўныя ролі ў вайне (да канца княжання апошняга Ягайлавіча яно заставалася другараднай, амаль дапаможнай сілай). Была адразу ж павялічана колькасць платных жаўнераў. У Полацкай кампаніі 1579 г. сярод амаль дваццацітрохтысячнай арміі беларуска-літоўскай дзяржавы найманая конніца налічвала 3 220 жаўнераў, а пяхота, падзеленая на 67 ротаў,—

6 330. На ўтрыманне гэтай дзесяцітысячнай арміі спатрэбіліся велізарныя грашовыя сродкі — 155 840 злотых, з якіх амаль 90 працэнтаў (137 510) выплацілі 17 гарадоў Беларусі.

Пастаянны дэфіцыт грошай у скарбе не дазваляў трымаць патрэбную колькасць найманага войска. Напрыклад, перад паўстаннем Б. Хмяльніцкага штогадовы



Конніца Вялікага Княства Літоўскага другой паловы XVI ст. З гравюры М. Цюндта

даход скарбу Вялікага Княства на фінансаванне войска не перавышаў і 20 тыс. злотых (для параўнання, у Кароне ён сягаў за 70 тыс. злотых). А даходы з усіх каралеўскіх эканомій у 1650 г. склалі суму, якой хапіла б толькі на паўгадавую аплату 5 тыс. жаўнерам па стаўках 1627 г. Каб утрымліваць дванаццацітысячнае войска ў цяжкія 1648—1649 гг., спатрэбілася 2 750 000 злотых, і ўжо праз два гады дайшло да рэдукцыі арміі. Ухваліўшы ж план на выдаткаванне 15 тыс. жаўнерскіх ставак для арміі Вялікага Княства ў 1650 г., сойм мусіў прымаць рашэнне аб надзвычайных падатках (50. S. 46).

З 1652 г., паводле канстытуцыі аб абароне Рэчы Паспалітай, вальнаму сойму штогод патрэбна было

зацвярджаць спецыяльны каштарыс на фінансаванне войска з дзяржаўнага скарбу — так званы кампут. На самым пачатку вайны, у чэрвені 1654 г., быў ухвалены максімальны па тым часе для Вялікага Княства кампут — 18 000 жаўнерскіх ставак (для Польшчы — 35 000). Але дзяржава не сабрала такіх сродкаў. У вялікага гетмана Януша Радзівіла было не больш за 12 тыс. жаўнераў (у Польшчы на восень 1654 г.— 24 тыс.). Гэтага катастрафічна не хапала для абароны краіны. Маскоўская дзяржава яшчэ ў 1651 г., задоўга да падрыхтоўкі вайны, мела 90-тысячную армію. У 1654 г. толькі дзеючыя палкі намнога перасягалі 100 тыс., а разам з гарнізонамі і рэзервам царскага войска ў 1663 г. было ўжо больш за 200 тыс. (27. С. 18).

Рэч Паспалітая, асабліва Вялікае Княства, мелі надзвычай абмежаваны ў параўнанні з усходнім царствам ваенна-эканамічны патэнцыял. З пачаткам маскоўскай агрэсіі фінансава-эканамічнае становішча краіны імкліва пагаршалася, нават у параўнанні з Польшчаю. Падаткі, ухваленыя ў 1654 г., былі сабраны толькі часткова, а ў 1655 г.— практычна зусім не сабраны (замест 2 млн. злотых падымнага падатку можна было атрымаць нейкіх 200 тыс.). Найбольшай за ўсю вайну лічбы колькасць найманага войска Вялікага Княства дасягнула ў другой палове 1658 г.— 22 000 ставак, што на практыцы азначала не менш за 20 тыс. жаўнераў. Але такія высілкі абярнуліся фінансавай катастрофай для дзяржавы.

Тое, што земскі скарб не меў сродкаў для рэгулярнай выплаты грошай вялізнай арміі, стала прычынай хвалявання ў і бунтаў у войску. Барацьба жаўнераў за невыплачаны ім заробак набыла надзвычай арганізаваную форму ў выглядзе канфедэрацый. Войска, якое ўтварала канфедэрацыю, выходзіла з падпарадкавання законным камандзірам і абірала ўласнае кіраўніцтва. Звычайна вышэйшым органам улады ў вайсковай канфедэрацыі было генеральнае кола рыцарскае, у якое ўваходзілі ўсе ротмістры, паручнікі, таварышы з конніцы, палкоўнікі, капітаны і іншае вышэйшае афіцэрства з пяхоты (51. Cz. 3. S. 144). Паўстанне канфедэрацый суправаджалася рабаваннямі краю (мяцежнае войска гэтым і кармілася) ды паралізоўвала абарону дзяржавы. Пакуль вялікім гетманам заставаўся Януш Радзівіл, удавалася ўстрымліваць жаўнераў ад бунту, але ў гады гетманства

Паўла Сапегі яны не перапыняліся. У 1660 г. у Драгічыне паўстала канфедэрацыя ў дывізіі правага крыла войска Вялікага Княства (канфедэрацыя Самуля Кміціча), а ў 1661 г. на поўначы Беларусі, у Палудавічах,— «Братэрскі Хаўрус», бадай самая вялікая канфедэрацыя ў XVII ст., якая ахапіла абедзьве дывізіі і сарвала магчымасці контрнаступу Рэчы Паспалітай. Апрача імкнення здабыць заслужаныя грошы канфедэраты дэкларавалі абарону шляхецкіх вольнасцяў. Іх арганізацыі з'яўляліся формай палітычнай барацьбы сярэдняй і дробнай шляхты супраць магнатэрыі і двара, супраць усялякіх рэформаў войска.

Як толькі скончылася вайна, у 1667 г. армія Вялікага Княства Літоўскага была зрэдукавана да 7 238 чалавек. Праз 10 гадоў сойм вызначыў норму для мірнага часу: у Кароне — 12 400, у Княстве — 6 000 жаўнераў. Праўда, на бітву пад Венай Вялікае Княства выставіла дванаццацітысячнае войска (тады як Польшча 36 тыс.). Такая колькасць заставалася да 1690 г., пакуль армія не была скарочаная да 8 тыс. У 1699 г., калі скончылася вайна з Турцыяй, зноў вярнуліся да старой нормы на мірны час — 6 тыс. жаўнераў. На мала змяніла гэтую лічбу і ўхвала Алькеніцкага з'езду 1700 г., калі шляхта, ваюючы з Сапегамі, вызначыла кампут на 7 700 жаўнерскіх ставак (48. S. 342).

Што азначалі гэтыя лічбы на практыцы? Армія Францыі ў 1702 г. сягала 222 тыс., Расіі — 166 тыс. (на 1709 г.), Аўстрыі — 127 тыс. чалавек. Невялікая Прусія — і тая мела тады 30 тыс. рэгулярнага войска. Так што нават колькасна ўзброеныя сілы Вялікага Княства і блізка не адпавядалі тагачасным еўрапейскім маштабам.

Платнае дзяржаўнае войска Вялікага Княства мела і шэраг сутнасных асаблівасцей. Сярод іх найперш трэба адзначыць тое, што яно надзвычай мазаічна выглядала паводле нацыянальнага складу (асабліва пяхота). Апрача жаўнераў мясцовага паходжання, тут служылі палякі, немцы, ангельцы, ірландцы, французы, вугорцы і інш. Шмат замежных вайскоўцаў, аднойчы нанятых на службу, заставалася ў Беларусі на сталае жыццё, асабліва ў памежных гарадах. Прынамсі, у Полацку з гэтае прычыны ў XVI ст. немцы і чэхі ўтваралі ўжо значную групу насельніцтва.

У XVII ст. у шматнацыянальным войску абвастрылі-

ся канфлікты на нацыянальнай глебе. Фармаванні чужаземцаў, якія вышэй аплочваліся і падпарадкоўваліся непасрэдна гетману, не карысталіся асаблівай пашанай і даверам з боку мясцовых жаўнераў. Шляхта Вялікага Княства і Кароны, якая ўжо ўсведамляла сябе адным народам, часта не жадала падпарадкоўвацца афіцэрам іншага паходжання. Напрыклад, наваградская шляхта заяўляла, што не дазволіць «людзей чужой нацыі на шыі нашыя пасадзіць» (51. Cz. 1. S. 79). Парушаючы нават загад манарха, у 1627 г. Мікалай Юдзіцкі пратэставаў супраць службы пад уладай чужаземца і заяўляў, што «як абывацель гэтага краю пад рэгіментам у шведа быць не думае». Нярэдка даходзіла да крывавых канфліктаў



Вугорская найманая пяхота XVII ст. Мал. С. Харэўскага (паводле гравюры)

паміж мясцовымі і чужаземнымі пяхотнымі аддзеламі. Гэтак, у 1622 г. нямецкая пяхота счапілася з польскай і «шмат крыві было разліта».

Гэтаксама размаітым быў жаўнерскі склад з пункту гледжання канфесійнай прыналежнасці. У XVII ст. абвастрэнне рэлігійнага антаганізму выклікала недавер да праваслаўных у войску Княства. Высокія чыны даваліся толькі каталікам і пратэстантам. Аднак у параўнанні з Польшчай, дзе пасля паўстання Б. Хмяльніцкага з'явілася інструкцыя, якая патрабавала ад ротмістраў не браць праваслаўных «як ненадзейных», а тым больш з Маскоўскім царствам, дзе Аляксей Міхайлавіч загадваў набіраць у палкі адно толькі «верных» (праваслаў-



Нямецкая пяхота XVII ст. Афіцэр і мушкецёр. Мал. С. Харэўскага (паводле гравюры)

ных), а «французжан и иных папежские веры не наймовати» (25. С. 65), у Беларусі неталеранцыя нават у часы вайны не набывала такой выразнай і вострай формы. Склад узброеных сілаў тут мала залежаў ад канфесійнага фактару.



Пікінер нямецкай найманай пяхоты. Мал. С. Харэўскага (паводле гравюры XVII ст.)

4. Зак. 39

## ВЫБРАНЦЫ

З прычыны браку пяхоты ў Польшчы паводле вугорскага ўзору ў 1578 г. было ўведзена выбранецкае войска. Яно фармавалася з сялян каралеўскіх маёнткаў. У Беларусі і Літве выбранцы з'явіліся пасля адпаведнай соймавай канстытуцыі 1595 г., якая абавязала з кожных 20 валок гаспадарскіх уладанняў выстаўляць па аднаму жаўнеру. З 1598 г. патрабавалася праводзіць іх штогадовыя попісы. У XVII ст. замест вярбоўкі сялян адпаведныя маёнткі часам абкладаліся грашовым падаткам (як у 1618 і 1629 гг.).

Наборам сялян у выбранецкае войска займаліся ротмістры, якія атрымлівалі на гэта адпаведныя лісты ад манарха. Арганізацыйна харугвы выбранцаў колькасцю па 100—200 чалавек практычна не адрозніваліся ад харугваў польскай пяхоты. Кожнай з іх кіраваў ротмістр, які меў паручніка, харужага і дзесятнікаў. Ротмістру надавалася поўная ўлада над яго харугвай, з правам смяротнага пакарання падначаленых (пры адсутнасці вялікага гетмана) (51. Cz. 1. S. 86).

Колькасна выбранецкае войска Вялікага Княства, відаць, ніколі не дасягала нават адной тысячы. У 1579 г., падчас Полацкай выправы, іх было сабрана 614, у 1621—1622 гг., калі ішла вайна са Швецыяй,— 482. Пазней іх фармаванні істотна скарачаліся. Дзяржаўцы часам не выстаўлялі выбранцаў з маёнткаў, якімі кіравалі. Нават Леў Сапега ў 1628 г. не выслаў іх з Берасцейскай і Магілёўскай эканоміі (51. Cz. 1. S. 83). Ды і самі сяляне былі неахвочыя да службы ў войску.

Падчас службы выбранцы першыя паўгода ўтрымлівалі сябе самастойна, а потым ім плацілі па два злотых на месяц. Напачатку яны мусілі і зброяй забяспечваць сябе самі — ручніцай (пазней — мушкетам), сякерай ды шабляй (дзесятнік яшчэ меў алебарду), але ў XVII ст. ім стаў набываць гэта дзяржаўны скарб. Прадугледжаную соймавай канстытуцыяй уніформу («барву») з прычыны фінансавых цяжкасцей яны мелі далёка не заўсёды. Баявыя якасці выбранцаў у параўнанні з найманай чужаземнай пяхотай былі надта нізкія. Адной з прычын іх слабасці з'яўлялася тое, што яны не атрымлівалі патрэбнай падрыхтоўкі, не ведалі ваеннай муштры. Харугвы выбранцаў звычайна нават не выкарыстоўвалі ў полі, а пасылалі на абарону замкаў. Выбранцы з Мен-

скага, Слонімскага і Ваўкавыскага паветаў, а таксама з Наваградскага ваяводства, служылі ў замках, памежных з Маскоўскай дзяржавай,— у Смаленску, Себежы, Рославе, Невелі і г. д., іншыя — у некаторых інфлянцкіх гарадах. У XVII ст., падчас вайны са Швецыяй, гетман Крыштап Радзівіл дамагаўся таго, каб абавязкам выбранцаў сталі толькі земляныя і фартыфікацыйныя працы.

З прычыны відавочнае неэфектыўнасці гэтага віду



Выбранцы Вялікага Княства Літоўскага XVII ст. Мал. С. Харэўскага

войска сойм Рэчы Паспалітай у 1649 г. зліквідаваў выбранецкую пяхоту, а замест яе ўвёў спецыяльны падатак з выбранецкіх валокаў. Аднак і гэта не апраўдала сябе. Ужо ў 1652 г., у цяжкія часы ўнутраных закалатаў, Рэч Паспалітая зноў вярнулася да выбранцаў як пастаяннай інстытуцыі.

У XVII ст. прыватныя аддзелы выбранцаў пачалі ствараць магнаты. У радзівілаўскім Слуцку ў 1619 г. 97 выбранцаў ужо служылі ў складзе замкавай залогі. У 1637 г. Багуслаў Радзівіл загадаў выбіраць па аднаму селяніну з 10 валок. Яны вербаваліся ў навакольных вёсках — Іване, Вызне, Старчыцах, Ярэмічах і інш. (19. С. 250). Былі таксама выбранцы койданаўскія, смалявіцкія, капыльскія, рубяжэвіцкія. Канцлер Леў Сапега ў 1621 г. набраў у сваім Лепельскім маёнтку па аднаму чалавеку з кожных 30 двароў для вайны з Турцыяй, пры гэтым усе яны мусілі мець мушкет і барву (уніформу).

## ТАТАРЫ І КАЗАКІ

Паколькі ўсе татары Вялікага Княства Літоўскага (так званыя літоўскія) належалі да шляхты, яны былі абавязаны служыць з зямлі. Паводле попісу 1528 г., земскую службу неслі 544 татарскія сям'і. Разам яны выстаўлялі ў войска 724 чалавекі. Згодна з першай рэвізіяй татарскіх маёнткаў, у 1559 г. у шасці харугвах татарскага войска мусіла налічвацца 652 коннікі (33.S.152). Але ў поўным складзе яно, відаць, ніколі не збіралася. І колькасна, і па сваіх баявых якасцях татарская конніца Вялікага Княства паступова занепадала. У няпоўным попісе 1565 г. зарэгістравана 125 татарскіх коней, а ў 1567 г., падчас самага масавага збору вайсковых сілаў Княства, да Маладзечна ў шасці іх харугвах прыехала 495 вершнікаў.

Татарскія харугвы мелі сваіх харужых, але іх кампетэнцыі абмяжоўваліся арганізацыйнымі функцыямі. Пасля падрыхтоўкі харугваў да баявых дзеянняў каманду над імі пераймаў правадыр, якога прызначаў вялікі гетман. Рашэнне аб мабілізацыі татарскага войска мог прыняць асабіста гаспадар (без адпаведнай ухвалы сойму) або адзін гетман.

Вопытных у вайсковай службе татараў ахвотна наймалі і ў прыватнае войска. Яны вызначыліся, напрыклад, у гетманаў Я. Хадкевіча пад Кіргольмам і Я. Радзі-

віла падчас барацьбы з казакамі. Іх лёгкія харугвы ў XVII ст. звычайна выкарыстоўвалі для выведак, пераследу непрыяцеля, у паштовай камунікацыі.

Малазначную для ўзброеных сілаў Вялікага Княства Літоўскага групу войска ўтваралі казацкія фармаванні. Акрамя так званых гарадавых казакаў, што за атрыманую зямлю неслі гарнізонную службу ў многіх гарадах на ўсходзе Беларусі, у разе вострай патрэбы ў людзях з ваенным вопытам у Княстве (як і ў Кароне) вербавалі ўкраінскіх казакаў ды пасылалі іх на тэатр баявых дзеянняў. Напрыклад, вялікія аддзелы казакаў былі набраны на пачатку XVII ст., падчас вайны са Швецыяй, і высланы ў Інфлянты. Аднак там яны вызначыліся не столькі ў бітвах, колькі ў рабаванні цывільнага жыхарства. У 1622 г. паслы Запарожскага войска прапаноўвалі Вялікаму Княству 20 тыс. казакаў, гатовых ваяваць у Інфлянтах без аплаты — адно за кошт нарабаванага (51.Cz.1.S.104). Спроба выкарыстаць аддзелы ўкраінскіх казакаў супраць шведаў у 1635 г. была зусім безвынікова. Наогул, калі ў Польшчы запарожцы, часта складаючы значную сілу кароннай арміі, надзвычай эфектыўна дзейнічалі супраць туркаў і татараў, дык у ваеннай практыцы Беларусі і Літвы іх фармаванні не мелі асаблівага значэння.

## АРТЫЛЕРЫЯ

Паводле прыналежнасці артылерыя Вялікага Княства Літоўскага падзялялася на дзяржаўную, прыватную і гарадскую, паводле асноўнага прызначэння — на палявую і фартыфікацыйную.

Яшчэ на пачатку 1380-х гадоў у беларуска-літоўскай дзяржаве было асвоена прымяненне запазычанай ад крыжакоў агнястрэльнай зброі (гармат), и потым і яе вытворчасць. Аднак першая майстэрня па адліўцы бронзавых і медных гармат тут з'явілася толькі ў 1540-х гадах. Гэта людвісарня, закладзеная гаспадаром Жыгімонтам Аўгустам у Вільні. Яна адразу набыла такую вядомасць, што нават у Кракаве адлівалі гарматы «на ўзор віленскіх». Галоўнымі майстрамі ў XVI ст. былі заходнееўрапейскія пушкары. Вядома, што з 1552 г. гарматняй у Вільні кіраваў немец Е. Герліх, а ў 1557 прыехаў Брайфус, пры якім людвісарня дасягнула росквіту: за восем гадоў працы ён адліў 109 гармат для замкаў Бе-

ларусі ды Літвы, 60 — для інфлянцкіх. Гэта былі ў асноўным чатырохтонныя фальконы, нотшлангі, а часам і вялізныя гарматы вагою да 10—12 т.

На пачатак 1550-х гадоў у Вільні мелася 245 гармат, з якіх 173 да 1565 г. было разаслана ў памежныя замкі Вялікага Княства, найперш у Беларусь (галоўным чынам фальканеты і серпантыны). Віленскі цэйкгаўз тады забяспечваў артылерыяй 64 замкі краіны. У 1567 г. войска, сабранае пад Маладзечнам і Лебедзевым для выправы на Маскву, мела блізу 100 палявых гарматаў — бадай максімальную колькасць артылерыйскіх руляў, якой калі-небудзь валодала дзеючая армія Вялікага Княства наогул.

Хоць, як вядома, у XVII ст. дзяржаўныя цэйхгаўзы меліся таксама ў Полацку, Смаленску, Магілёве, Крычаве, Оршы, Езярышчах і інш., віленскі заставаўся галоўным і мусіў рассылаць зброю і боезапасы па іншых цвердзях. Аднак цэнтральны арсенал дзяржавы пачаў занепадаць ужо з другой паловы XVI ст., калі гарматы з Вільні толькі вывозіліся і практычна ніколі не вярталіся. У 1579 г. на Полацкую выправу, напрыклад, забрана 55 гармат, якія пасля Пскоўскай кампаніі былі завезены не назад у Вільню, а ў Кокенгаўзен. Артылерыя ж, здабытая ў маскоўскіх абозах, трапляла звычайна ў Польшчу (як пасля Полацкай кампаніі, калі ў царскіх ваяводаў было здабыта 120 цяжкіх гармат, але яны не трапілі ў беларускія замкі, ці як пасля перамогі 1634 г. пад Смаленскам). Магнаты ж заўсёды дбалі толькі аб уласных замках, часам нават у шкоду агульнадзяржаўным інтарэсам. Так што адна кволая віленская людвізарня і занядпалы цэйкгаўз не маглі задаволіць той вялікай патрэбы ў гарматах, якую пастаянна перажывала Вялікае Княства.

Дзякуючы рэформам 1632—1638 гг., праведзеным Уладзіславам IV, артылерыя Вялікага Княства была выдзелена ў асобны корпус і займела свайго генерала, або «старшага над арматай»,— Мікалая Абрамовіча (пасля яго гэтую пасаду ў 1651 г. атрымаў Вінцэнт Гасеўскі, у 1652 г.— Жыгімонт Воль, у 1654 г.— Мікалай Юдзіцкі). Калі раней праблемы, звязаныя з артылерыяй, мусіў браць на сябе падскарбі земскі, дык цяпер уся пушкарская справа перадавалася асобнаму міністру. З гэтага часу на гарматах літоўскага корпуса ставіўся толькі герб Пагоня, а на польскіх — толькі Арол. Неўза-

баве да гарматаў была прызначана і пастаянная конная цяга (гэта даручылі татарам). У склад корпусу артылерыі літоўскай уваходзіла таксама інжынерная служба (гэта найперш сапёры ды шматлікія рамеснікі — кавалі, слесары, муляры, цесляры, стэльмахі, каладзеі і інш.). Аднак у цэлым дзяржаўная артылерыя Вялікага Княства, найперш з прычыны хранічнага недахопу фінансаў, заставалася ў зусім занядбаным стане.

Віленская людвізарня функцыянавала і ў XVII ст. У часы Жыгімонта Вазы ёю кіравалі Лі Раланд і Ян Бройтэльт з Латарынгіі. Адлітыя ў Вільні гарматы адпраўлялі, у прыватнасці, у выправу на Маскву. У 1662 г., пасля вызвалення Вільні ад маскоўскага войска, сталічная гарматня зноў запрацавала, аднак замест гармат у ёй адлівалі ўжо бадай адны званы. Пад канец XVII ст. у корпусе артылерыі Вялікага Княства мелася ўсяго два-тры дзесяткі палявых гармат.

Значна лепей за дзяржаўную выглядала прыватная артылерыя. Такія магнаты, як Радзівілы і Сапегі, ператваралі свае гарады ў непрыступныя фартэцыі, закладалі ўласныя людвізарні і ўтваралі магутныя арсеналы ў рэзідэнцыях. Менавіта іхнія гарады — Быхаў, Дуброўну, Ляхавічы, Мір, Нясвіж і Слуцк — адзначыў сярод



**Гармата канца XVI ст. з Нясвіжскага замка са славутай серыі Германа Мольтсфельда**

лепшых цвердзяў знаўца фартыфікацыі XVII ст. Ю. Нарановіч-Нароньскі (51.Cz.2.S.15).

Ужо ў 1576 г. распачалася вытворчасць гармат у Нясвіжы, дзе неўзабаве паўстала (першай з прыватных) людвізарня Радзівілаў. Выпісаны з Нямеччыны майстар Герман Мольтсфельд у 1597—1603 гг. адліў тут знакамітую серыю гармат, якія сталі найлепшым узорам людвізарскага мастацтва Еўропы («Цырцэя», «Гідра», «Папугай», «Сава», «Хімера», «Мелюзіна», «Цэрбер» і «Віпаград»). Падчас трынаццацігадовай вайны з Маскоўскай дзяржавай у Нясвіжы мелася блізу сотні гармат.

У XVII ст. прыватныя гарматні існавалі таксама ў Быхаве, Слуцку і, праўдападобна, у Ляхавічах. Слуцк нездарма называлі «непрыступным бастыёнам Літвы» — ягоны арсенал быў адным з самых багатых. Яшчэ ў 1595 г. С. Налівайка вывез з горада 12 добрых гармат, 80 гакаўніц і 700 ручніц. У 1620 г. наяўная агнястрэльная зброя радзівілаўскай рэзідэнцыі складалася з гармат вялікіх бурачых (5), паўгармат (5), марціраў (4), палявых гарматак (6), палявых гарматак сапсаваных (5), гарматы жалезнай (1), мушкетаў (83), шмігаўніц на колах (9).

У арсенале мелася таксама 130 гакаўніц, шмат пораху і куль да гэтай зброі. У 1661 г. абаронцы Слуцка дыспанавалі артылерыяй у 40 руляў. Падчас тае ж вайны ў непрыступным замку Ляхавічаў была 31 гармата, палова якіх мела родавы герб Яна Хадкевіча. У XVI—XVII стст. уласнай вытворчасцю артылерыі займаліся не толькі Радзівілы, Сапегі і Хадкевічы. Сярод трафеяў, вывезеных адсюль шведамі ў гады Паўночнай вайны (цяпер яны знаходзяцца ў Каралеўскім музеі арміі ў Стакгольме), ёсць таксама гарматы з гербамі Аскіркаў, Глябовічаў, Палубінскіх і Пацаў. Вядома, што гэтыя магнаты трымалі ў сваіх гарадах прыстойныя арсеналы, звычайна большыя, чым маглі сабе дазволіць гаспадарскія месты. Яны былі ў Лепелі, Талачыне, Старым Быхаве (пад канец XVII ст. — 34 гарматы), Горах (у 1627 г.—2 гарматы і 28 гакаўніц), Дуброўне (у 1645—18 гармат і 64 гакаўніцы), Копысі (у 1670 — 4 гарматы і 22 гакаўніцы), Себежы (8 гармат, 5 марцір і 13 гакаўніц на сярэдзіну XVII ст.) ды іншых гарадах (28. С. 80—92).

З гаспадарскіх гарадоў, відаць, самы магутны арсенал меў Смаленск. У 1632 г. на яго мурах стаяла 170 добрых гармат. У Віцебску ў 1655 г. разам з гакаўніцамі

іх было 167. У Шклове ў 1657 г.— 20 гармат, 20 грахоўніц і 93 гакаўніцы. Але маскоўскія ваяводы вывезлі артылерыю, і праз тры гады тут заставалася 15 пішчаляў, у 1688 г. арсенал шклоўскага замка зноў меў 9 гармат, марціру і 177 гакаўніц. Узбраенне ж меншых гарадкоў было хутчэй сімвалічнае. Напрыклад, у Глуску ў 1571 г. зарэгістравана толькі адна гармата і тры гакаўніцы, у Стрэшыне ў 1608 г.— чатыры гарматы і дзесяць гакаўніц. У Магілёве, Крычаве, Жлобіне ды некаторых іншых гарадах была наладжана мясцовая вытворчасць гармат, аднак на гарадскіх валах іх пастаянна не хапала.

Вострай хранічнай праблемай было забеспячэнне артылерыі порахам, ядрамі, цягай. Напрыклад, у Смаленску перад вайной 1633—1634 гг. мелася толькі 2000 гарматных ядраў. Гетман Крыштап Радзівіл у 1622 г., ваюючы супраць арміі караля Густава Адольфа, наракаў, што мае «толькі 30 куль да ўсіх гармат і 7 бочак пораху».

Нават у гады вайны артылерыя часта проста не давозілася да войска з прычыны недахопу коней і фурманаў. Напрыклад, улетку 1654 г., калі царская армія ўжо наступала, у абоз Януша Радзівіла пад Оршу пушкары не давезлі са Слуцка гарматы, порах і інш. У 1655 г., пасля Магілёўскай кампаніі, размешчаную ў Слуцку і Нясвіжы артылерыю таксама нельга было вывезці далей з тае прычыны, што Альбрэхт Радзівіл «і аднаго фурмана не меў за што наняць».

У цэлым з той артылерыі, якой дыспанавала Вялікае Княства Літоўскае ў XVI і XVII стст., і па колькасных, і па баявых параметрах найлепшай была прыватная. Наймаными магнатамі пушкары вылучаліся вышэйшым прафесіяналізмам, вымуштраванасцю. Гаворачы пра кампанію 1621—1622 гг., Крыштап Радзівіл, у прыватнасці, адзначаў: «каб не мае гарматы... і не мае пушкары, усё наша стралянне ў смех ператварылася б» (51. Cz. 3. S. 134).

## ВАЙСКОВЫЯ УРАДНІКІ

**Гетман.** У Вялікім Княстве існавалі пасады двух гетманаў — найвышэйшага (у XVII ст.— вялікага) і палявога. Інстытут з'явіўся напрыканцы XV ст. (палявога — каля сярэдзіны XVI ст.). Абодва прызначаліся манархам, які даручаў ім кіраванне войскам. Улада гетмана,

якую сімвалізавалі булава і бунчук, пашыралася на паспалітае рушанне, найманае войска, сабранае ім, а таксама на павятовыя і прыватныя харугвы, што прыйшлі да гетманскага абозу. Аднак ухвала сойму магла вывесці з-пад яго падпарадкавання земскае войска. Шляхта кантралявала дзейнасць гетмана, магла крытыкаваць і патрабаваць адказнасці перад соймам.

Адказваючы за бяспеку дзяржавы, вялікі гетман быў абмежаваны ў магчымасцях. Збіраць войска (без якога ён не меў чым камандаваць) мог толькі пасля адпаведнай ухвалы сойму ды лістоў караля і вялікага князя, а дзеля найму жаўнераў мусіў атрымаць грошы ад падскарбія земскага. Не было права на тое, каб у разе патрэбы падпарадкаваць сабе гетмана палявога ці яго войска без дазволу апошняга, чаго часта вымагала сітуацыя.

У 1566 г. пасля далучэння Інфлянтаў да Вялікага Княства ў якасці леннага краю з'явіўся інстытут гетмана інфлянцкага, які існаваў да 1578 г., затым яго функцыі выконваў «спраўца» гетмана найвышэйшага ў Інфлянтах. У 1583 г. пасада гетмана інфлянцкага была адноўлена, але толькі для кіравання ленным войскам.

**Генерал артылерыі.** Інстытут з'явіўся ў выніку рэформаў арміі, праведзеных у 1630-х гг. Уладыславам IV. Спачатку манарх даручаў Мікалаю Абрамовічу апеку над пушкарскай службай, а ў 1638 г. была ўведзена спецыяльная пасада генерала артылерыі Вялікага Княства (у Польшчы яна з'явілася на год раней).

**Цэйгварт** як ураднік папярэднічаў «старшаму над арматай». Ён загадваў «усімі фурманамі, пушкарамі, дзеламі, порахам ды іншымі рэчамі, да арматы належачымі», а таксама наглядаў за будаваннем мастоў, паромаў і інш. Існаваў таксама цэйгварт абозны, які апекаваўся гарматамі ў абозе, а таксама палявы.

**Падскарбі** земскі хоць і не належаў да войска, але непасрэдна ад яго, як і ад гетмана, залежала бяспека краю, уся справа абароны. Выдаваў грошы на найманне жаўнераў і выплату за службу, а таксама на іншыя ваенныя патрэбы. Мусіў клапаціцца пра уніформу для пяхоты і артылерыі («барву»).

**Пісар** палявы з'явіўся ў другой палове XVI ст. Рэгістраваў войска, якое прыходзіла да абозу (складаў попіс), фіксаваў пачатак службы, перыядычна праводзіў перарэгістрацыю. Як і падскарбі, не залежаў ад улады гетмана і мог не быць у войску.

**Абозны** адказваў за разбіванне абозу і парадак у ім. У XVI ст. існаваў часовы інстытут абознага, якога прызначаў гетман, а ў 1631 г. была ўтворана сталая пасада. У палку гетман прызначаў палкавога абознага, які адказваў за табар свайго фармавання і парадак у ім.

**Суддзя** вайсковы вядомы ў XVII ст. Прызначаўся гетманам (адзін або некалькі) дзеля разгляду дробных крымінальных спраў у войску. Смяротныя прысуды жаў-




Схема кіравання войскам Вялікага Княства Літоўскага. Паводле Г. Катарскага

нерам магла выносіць рада ў складзе маршалка, палкоўнікаў, ротмістраў і вайсковых суддзяў.

**Стражнік** вайсковы кантраляваў, як нясе службу варта абозу, мусіў глядзець кожны аддзел, які ўязджаў у абоз ці выязджаў з яго. Спачатку прызначаўся гетманам на час кампаніі, а ў 1636 г. была ўтворана пастаянная пасада. Першым стражнікам стаў Рыгор Мірскі. Існавалі таксама стражнікі палкавыя, а ў 1660-х гадах з'явіўся і інстытут палявога стражніка (51. Cz. 2. S. 71).

**Камісары вайсковыя.** У ваеннай практыцы Вялікага Княства яны сустракаюцца толькі ў XVII ст. Напрыклад, менскі пісар Крыштап Валадковіч у 1654 г. быў прысланы ў якасці камісара да вялікага гетмана Януша Радзівіла. Прызначаліся для выплаты грошай жаўнерам і для залагоджвання канфліктаў у войску.

## 2. СТРУКТУРА ВОЙСКА

Узброеныя сілы Вялікага Княства Літоўскага генеральна падзяляліся на кавалерыю і пяхоту. Паводле традыцыі, ваенна-служылы стан Беларусі і Літвы, гэтаксама як і ў Польшчы, аддаваў перавагу конніцы. Шляхта проста не жадала служыць у пяхоце. Шляхецкая конніца часам нават не хацела спыняцца ў абозе ў перамежку з пяхотай ці драгунамі. Гэта з'яўлялася адной з прычын таго, што XVI ст. у конніцы Вялікага Княства амаль не было іншаземцаў.

Колькасна ў войску заўсёды дамінавала конніца. Нават пасля рэарганізацыі ўзброеных сілаў, праведзенай С. Батурам (новы кароль і вялікі князь змяніў іх структуру — павялічыў удзельную вагу пешых аддзелаў за кошт найму чужаземцаў), яна яшчэ ў два разы пераўзыходзіла колькасць пяхоты. У Польшчы тады ж конніца і пяхота былі ўжо прапарцыянальна роўныя, а ў Заходняй Еўропе пяхота складала абсалютную большасць арміі. Менавіта з ініцыятывы С. Батуры ў войску Вялікага Княства ўпершыню з'явіліся фармаванні як вугорскай конніцы і пяхоты, так і нямецкіх рэйтараў ды аркебузераў.

Найманая пяхота складалася з фармаванняў так званага айчыннага і чужаземнага ўзораў (аўтараментаў). Паводле арганізацыі, узбраення, уніформы і тактыкі, першыя наследавалі ўзоры польскай найманай пяхоты— агульныя для ўсёй Рэчы Паспалітай. Таму такія аддзелы часта называлі польскай пяхотай, хоць набірацца яны маглі зусім не з палякаў. Гэтаксама і ўсю чужаземную пяхоту звычайна называлі проста нямецкай, а служылі ў ёй і вугорцы, і швейцарцы і інш. Апошнюю, дарэчы, пасля княжання С. Батуры больш-менш шырока наймалі толькі з 1633 г.

У аддзелы айчыннай пяхоты вербаваліся як мясцо-

вые жыхары, так і замежныя прафесійныя вайскоўцы. Іх сацыяльнае паходжанне было рознае. Здаралася, нават ротмістрамі прызначаліся не шляхцічы. Жаўнеры такіх фармаванняў атрымлівалі ў два-тры разы меншы заробак, чым у чужаземнай пяхоце.

Што да вайны, дык пяхота польскага ўзору пераняла тактыку сярэднявечнай візантыйскай пяхоты. Яна вяла дзеянні толькі ротамі, пастаўленая па дзесятках. Падчас бою наперадзе стаялі павезнікі, за імі — дзесятнікі з вошчапамі ці алебардамі, далей — пікінеры з «дрэвамі» і ручніцамі. У шасці наступных шарэнгах стаялі таксама стралкі, а замыкалі іх пікінеры. Для стрэлу ўся рота, апрача апошняй шарэнгі стралкоў, прысядала на калена. Стрэліўшы, апошнія стоячы рыхтаваліся да новага залпу, тады як наступная шарэнга падымалася і таксама страляла, і г. д.

Нямецкая пяхота, якая на Захадзе яшчэ ў XVI ст. выцясніла рыцарства ды стала каралевай вайны, хутка здабывала славу і ў краінах Усходняй Еўропы. У XVII ст. па баявых якасцях яна фактычна не мела сабе роўных і на палях ды гарадскіх мурах Беларусі. Менавіта ёй Рэч Паспалітая была абавязана ўжо перамогай у Смаленскай вайне 1633—1634 гг. (пад Смаленскам тады дзейнічала блізу 10 тыс. наймітаў).

У пяхотныя фармаванні чужаземнага ўзору ўваходзілі мушкецёры (прыкладна 2/3 асабовага складу) і пікінеры. Першыя мелі кнотавыя мушкеты і падстаўкі да іх (фаркеткі), а таксама шаблі ці іншую сякучую зброю. Значна лягчэйшыя і больш надзейныя мушкеты з колкавым замком у сярэдзіне XVII ст. сустракаліся яшчэ вельмі рэдка. Пікінеры мелі пікі (даўжынёй 3—5 м) ці алебарды і таксама шаблі. У афіцэраў былі пісталеты і шпагі. Апраналася такое войска ў уніформу нямецкіх ці шведскіх узораў. Афіцыйнай мовай была нямецкая. Арганізацыйнымі адзінкамі з'яўляліся рэгіменты (палкі), фрайкампаніі, кампаніі і швадроны («сквадроны»). У рэгіментах падчас ваенных дзеянняў налічвалася прыкладна па 1000 жаўнераў (асабліва пасля Смаленскай вайны 1633—1634 гг.), у меншых фармаваннях — па 300—400, а ў кампаніях магло быць па 90—120 чалавек. Палком кіраваў оберштэр, яго намеснікам з'яўляўся оберштлейтнант.

Аплата нямецкай пяхоты вызначалася самымі высокімі стаўкамі. Яна намнога пераўзыходзіла нават гусар-

скую. Калі ж нямецкім жаўнерам доўга не выдавалі заробку ці не забяспечвалі нармальным харчаваннем, яны маглі лёгка перайсці на бок непрыяцеля, што неаднаразова і здаралася.

Арганізацыйна падобнымі да чужаземнай пяхоты былі драгуны — конная пяхота, якая выкарыстоўвала коней толькі для мабільнага перамяшчэння. Першае драгунскае фармаванне ў Княстве вядома з 1618 г. Асноўны склад іх аддзелаў вербаваўся з мясцовага жыхарства, у тым ліку з людзей нешляхецкага паходжання. Узбраеннем драгуна з'яўляліся мушкет і шабля, часам і пісталет. Замест мушкета магла выкарыстоўвацца ручніца ці ар-



Драгун XVII ст. Мал. С. Харэўскага (паводле гравюры)

кебуза. Частка драгунаў мела таксама кароткія спіцы. Колькасць людзей у рэгіментах (якія часта называліся швадронамі) вагалася ў межах ад 400 да 600, а ў меншых самастойных фармаваннях (карнетах, фрайкампаніях, харугвах) дасягала сотні (30. S. 35).

Сярод кавалерыі самай баяздольнай і элітарнай была гусарская конніца. Хоць з'явіліся гусары на пачатку XVI ст. як тып лёгкай конніцы, за час панавання Жыгімонта Старога яны амаль выцеснілі цяжкаўзброеную кавалерыю капійнікаў і, апрануўшы засцерагальныя даспехі, самі сталі конным войскам цяжкага тыпу. У 1540-х гадах у Польшчы ўжо шырока выкарыстоўваліся гусарскія паўзбройкі. Агульная вага засцерагальнай зброі гусара сягала 15 кг (поўная зброя заходнееўрапейскага рыцара важыла 65 кг). Да тыповага рыштунку гусара ў Вялікім Княстве ў другой палове XVI ст. належалі прылбіца (або шышак), панцыр, тарча і дзіда. Зрэдку дадаткам да гэтага камплекту была і агнястрэльная зброя.

Надзвычай падобная да польскай сваім узбраеннем гусарыя Беларусі і Літвы ўсё ж адрознівалася ад кароннай тым, што тут значная колькасць вершнікаў у другой палове XVI ст. яшчэ карысталася панцырамі і тарчамі, тады як у Польшчы агульнай нормай сталі пласцінкавыя паўзбройкі. Напрыклад, у роце Філона Кміты ў 1567 г. толькі некаторыя мелі «зброю бляхову» (5. С. 214—222). У XVII ст., як сведчаць крыніцы, да камплекту належалі шышак. металічны каптан, нарукаўі, дзіда, шабля, канчар або палаш, пісталет ці лёгкая стрэльба (ручніца, карабін). Дадаткам да такога ўзбраення былі крыллі, прымацаваныя да сядла ці за спіной да паўзбройка (яны выраблялісія, дарэчы, і ў Слуцку). Такія крыллі, з аднаго боку, засцерагалі гусара ад татарскага аркана, а з другога — мелі важны псіхалагічны эфект, у прыватнасці мусілі застрашваць коней непрыяцеля. А самай грознай зброяй гусара з'яўлялася яго даўгая дзіда (у XVI ст. яе даўжыня сягала 3,5—4,5 м, у XVII ст.— 5 м), што мела звычайна прымацаваны прапарэц з белай, чырвонай і чорнай кітайкі. З разгону гусар мог наскрозь прабіць ёю чалавека ў самых цяжкіх даспехах.

Сярод іншых відаў кавалерыі гусары вылучаліся найлепшымі конямі. Апрача айчынных парод яны здабывалі арабскіх, турэцкіх, італійскіх ды неапалітанскіх скакуноў. У рэестры коннай роты Філона Кміты найчасцей фігуруюць валахі і дрыкганты. Імклівай атакай у адкры-



Крылаты гусар Вялікага Княства Літоўскага XVII ст. Мал. С. Харэўскага

тым полі крылатыя коннікі раскідвалі любыя шыхты непрыяцеля і вырашалі зыход многіх бітваў. Аднак перад агнястрэльнай зброяй або ў забалочанай ці лясістай мясцовасці гусары рабіліся амаль бездапаможнымі. Гэтаксама цяжка ім было ўзімку, на глыбокім снезе. Таму ў гады вайны з Аляксеем Міхайлавічам гетманы імкнуліся не праводзіць аперацый у зімовы час, калі «гусару будет на пехоту скочить нельзя» (3. Т. 3. С. 299).

Росквіт гусарыі — ад сярэдзіны XVI да сярэдзіны XVII ст. Падчас Полацкай выправы яна складала абсалютную большасць конніцы беларуска-літоўскай дзяржавы. Атакі гусараў прадвызначылі перамогу пад Кіргольмам у 1605 г., пад Шкловам у 1654 г., пад Палонкай і каля Басі ў 1660 г., нават пад Хоцімам у 1673 г. ды пад Венай у 1683 г. Але канец XVII ст. быў і канцом гусарскай славы. Ужо пры панаванні Яна Сабескага гусарыя страціла ранейшае баявое значэнне.

Паводле ўнутранай арганізацыі гусарскае войска амаль не адрознівалася ад найманай конніцы наогул. У поўнай гусарскай харугве налічвалася блізу 200 вершнікаў, аднак у многіх іх колькасць магла не перавышаць 100. Гусарскі почт найчасцей складаўся з трох асобаў. На вазах, якія суправаджалі харугву, везлі прадукты, таксама сапёрскі інвентар — рыдлёўкі, матыкі, сякеры, ланцугі і інш.

У сацыяльным плане гусарыя — войска шляхецкае, элітарнае, сапраўдны гонар усёй Рэчы Паспалітай. Ротмістрамі гусарскіх харугваў былі звычайна вялікія паны, нават паручнікамі ды таварышамі — радавітыя шляхцічы. У часе міру на службу ў гусарскія харугвы аддаваліся дзеці самых арыстакратычных родаў.

Да цяжкай кавалерыі Вялікага Княства Літоўскага належалі таксама рэйтары (у Беларусі і Літве іх называлі яшчэ аркебузерамі). Гэта чыста заходнееўрапейскі тып конніцы, які з'явіўся ў сярэдзіне XVI ст. у Нямеччыне, а ўжо ў канцы 1570-х гадоў — і ў Вялікім Княстве Літоўскім. Лягчэйшая за закаваных у жалеза капійнікаў рэйтарыя ад таго часу развівалася паралельна з гусарыяй, была блізкая ёй па арганізацыі ды амаль раўназначная паводле ролі, якую звычайна выконвала ў бітвах. Яе выкарыстоўвалі як у палявых сечах, так і для гарнізоннай службы. Ахоўны даспех утваралі гелм ды паўзброек з набедранікамі і нарукаўямі, узбраенне — мушкет ці аркебуза, два пісталеты, шабля, шпага ці ра-

піра. У XVII ст. ў рэйтарскіх харугвах служыла па 100—150 чалавек, але ў часе казацкіх войнаў трапляліся фармаванні і па 800 коннікаў. У рэйтарыю вербавалася галоўным чынам інфлянцкая, курляндская ды пруская шляхта, афіцэрамі ж служыла многа немцаў. Нягледзячы на вельмі высокую аплату, у 1621 г. рэйтарскую харугву выставіў нават Ваўкавыскі павет.

Калі гусары пачалі выконваць ролю капійнікаў і занялі месца цяжкай конніцы, з'явіўся новы тып лёгкай кавалерыі — казакі. Праўда, у другой палове XVI ст., як сведчаць палявыя попісы, яны яшчэ мелі адносна цяжкае засцерагальнае ўзбраенне. У роце аршанскага старасты тыповым казацкім рыштункам лічыліся панцыр, шышак або прылбіца, сагайдак, шабля і рагаціна (нека-



**Гусарская паўзброя першай паловы XVII ст.**

торыя мелі сякерку) (5. С. 214—222). У XVII ст. харугвы казакаў з'яўляліся ўжо тыповай сярэднеўзброенай конніцай і ўтваралі касцяк кавалерыі (панцырныя). Фармаванні гэтага ўзору набіраліся ў Рэчы Паспалітай у асабліва вялікай колькасці з часоў так званай казацкай вайны (паўстання на чале з Б. Хмяльніцкім на Украіне), калі ў Кароне іх і сталі называць панцырнымі (каб адрозніваць ад украінскіх казакаў). Тыповым для панцырных узбраеннем былі шабля ды пісталет (ці два), або ручніца, а ў другой палове XVII ст. часцей — бандалет. Некаторыя мелі яшчэ лук, рагаціну. З ахоўнай зброі яны выкарыстоўвалі панцыр (кашуля з жалезнай сеткі ці лускі) ды місюрку, зрэдку — тарчу, аднак сустракаліся харугвы і зусім без ахоўных прыналежнасцяў.

З XVI ст. відам лёгкай конніцы былі і пяцігорцы. Паводле ўзбраення практычна не адрозніваліся ад казакаў, мелі дзіды, шаблі, лукі. У Вялікім Княстве першыя роты пяцігорцаў з'явіліся ў 1560-х гадах, калі тут пачалі служыць кабардзінцы — выхадцы з Пяцігор'я, што паміж



Гусарскі шышак XVII ст.

Церакам і Кубанем (у Маскоўскім царстве іх называлі чэркесамі). Пяцігорцы ўтваралі ядро аддзелаў лёгкай конніцы з людзей пераважна кабардзіна-татарскага паходжання, што ад казакаў розніліся бадай толькі сваім строем ды кароткімі дзідамі. Разам з казакамі ў часы С. Батуры пяцігорцы складалі блізу 10 працэнтаў дзейнай конніцы. Сярод добра вядомых у XVI ст. іхніх фарманняў — роты Халім-Бека ды Гаўрылы. У 1661 г. у вайне з Маскоўскай дзяржавай бралі ўдзел 12 валошскіх і татарскіх харугваў агульнай колькасцю 1470 коннікаў, сярод якіх харугвы Ермаловіча, Абрамовіча, Сенкевіча, Бараноўскага, Гасана ды інш.

Дысцыпліна ў войску залежала ад тыпу фармавання і ад камандзіраў. Лепш яна трымалася ў рэгіментах нямецкай пяхоты. Але і тыя часта займаліся марадзёрствам, сілай адбіралі ў мясцовага жыхарства прадукты. Дрэннае забеспячэнне харчаваннем наогул пастаянна штурхала жаўнераў на самаўтрыманне — гвалтоўную экспрапрыяцыю прадуктаў. У айчынных фармаваннях да таго ж хапала і сваволі ды п'янства. Здаралася, што драгуны «кожны дзень напіваліся і п'яныя на варту хадзілі». У значнай ступені гэтаму спрыяла мяккая сістэма пакаранняў, абмежаванасць улады гетмана, які хоць і манапольна валодаў правам мяча (без яго не мог адбывацца ніводзін крымінальны працэс, ніхто з паноў палкоўнікаў, ротмістраў, капітанаў не мог «прысвойваць сабе ўлады жыцця і смерці людской над падначаленымі»), аднак карыстаўся ім толькі дзеля таго, каб караць за канкрэтную віну, за ўжо ўчынены акт, а не ў мэтах прафілактыкі. Калі, напрыклад, гетман Крыштап Радзівіл падчас вайны са шведамі спаткаў каля свайго абозу п'янага ротмістра Клячкоўскага, які вёў харугву на варту, ён не караў яго, бо не меў на тое юрыдычных падстаў (51. Cz. 3. S. 141). За свавольствы ўвогуле не каралі. У 1617 г. гусарскі ротмістр Ян Сіцынскі і яго жаўнеры, выбіраючы стацыі, панапіваліся і пачалі сваволіць: запалілі дом войта, паразганялі мясцовых жыхароў, а іх хаты растрэслі, ўрадніка ж, які прыехаў, хацелі забіць (51. Cz. 3. S. 146). Жаўнеры з аддзелу смаленскага ваяводзіча Мікалая Абрамовіча ў 1633 г. на Полаччыне шмат «крыўды людзям убогім пачынілі. На дамы шляхецкія наязджалі, у дварах станавіліся, замкі збівалі, бралі, што ім падабалася» (34. S. 366). І такіх выпадкаў было шмат.

Па краіне падчас войнаў і паміж імі заўсёды хадзілі нікому не надпарадкаваныя каманды жаўнераў і рабавалі насельніцтва. Іншыя, здаралася, адлучаліся ад свайго абозу і пустошылі вёскі. Але ў тыя часы гэта было характэрным, бадай, для любога войска. Вядома, як



Кальчуга і місюрка кавалерыі панцырнай XVII ст.

польскія харугвы, вяртаючыся пасля перамогі пад Смаленскам у 1634 г. праз Беларусь, паводле сведчання А. Радзівіла, «уладанні шляхецкія, духоўныя і каралеўскія пустошылі, грошы выцягвалі, правіянт ...выбіралі і ў вазы свае ладавалі, і да такое жорсткасці дайшлі, што бедных сялян да вазоў уцягвалі ад браку коняў ды кіямі і пугамі іх паганялі...» (34. S. 366). У 1655 г., калі ўжо на Беларусь наступалі царскія ваяводы, прысланыя на дапамогу польскія рэйтары, выходзячы з Менску, «бунт узняць хацелі, шляхецкія дамы, двары, нават касцёлы абрабавалі...»

Але ўрэшце рэшт усё мог вызначаць камандзір, яго здольнасці. Калі, напрыклад, гетман Януш Радзівіл у 1649 г., здабыўшы Мазыр, загадаў не рабаваць горада, ніхто з яго жаўнераў за два дні так і не рушыў па лупы.

Як асобная сістэма, але ў шчыльнай сувязі з войскам, існавала інфармацыйна-выведачная служба. Асабліва актыўна яна функцыянавала на ўсходняй Беларусі, у памежных з Маскоўскай дзяржавай гарадах. У XVI ст. тут быў яшчэ сталы інстытут «рыскуноў» — людзей, якія сачылі за падзеямі ў воласці, займаліся зборам інфармацыі аб падазроных і перадавалі яе адпаведным ураднікам. У другой палове XVI ст. у Вялікім Княстве была добра развітая «служба шпегаўская». Шпіёнства як збор інфармацыі ў ваенных мэтах мела характар сталага, прафесійнага занятку, добра аплачвалася. Многія шпегі жылі за мяжой і праз спецыяльных пасланцоў рэгулярна інфармавалі свайго гаспадара. Выдаткі на іх уваходзілі ў каштарыс. У гады вайны з Іванам IV Жахлівым звесткі з Масквы дасылалі Васька Глазко, Васька Станкоў, Кузьма Труба ды іншыя шпегі, якіх там налічвалася не менш за 60. Тады ж у Інфлянтах працавала 20 шпегаў. У аднаго аршанскага старасты Філона Кміты Чарнабыльскага, што славіўся асаблівымі заслугамі ў дыверсійнай барацьбе супраць Івана IV, было 12 выведнікаў, якія інфармавалі яго аб сітуацыі ў Полацку, Невелі, Смаленску ды іншых падуладных цару гарадах. Кожны з іх каштаваў для старасты прыкладна 6,5 копаў літоўскіх грошай за год (29.S.15). Адначасова прымаліся захады па барацьбе з маскоўскай шпіёнскай службай. У прыватнасці, «Артыкулы вайсковыя» гетмана Р. Хадкевіча прызначалі чвэртаванне таму, хто дасць прытулак непрыяцельскаму шпегу, або, ведаючы пра яго, змаўчыць (15.S.131).

Добра пастаўленая выведачная служба забяспечвала поспех шмат якіх ваенных акцый. Напрыклад, перамога над Улай у 1564 г. была ў значнай ступені абумоўлена своечасовай і дакладнай інфармацыяй аб руху П. Шуйскага. Функцыянавала яна і пазней. У 1631 г. маскоўскія стральцы арыштавалі некалькі выведнікаў з Беларусі, выкрыўшы іх на той падставе, што «говорят по литовски» (г. зн. па-беларуску). У 1663 г. шляхціч А. Есман высылаў у Маскву для збору звестак і таемнай скупкі пораху ды волава двух шпегаў з Беларусі, адным з якіх быў А. Шышанок — «белорусец, волосы на голове русы, ростом высок, боротка русенка, не велика, на двое». У тым жа годзе шпіёнская служба Рэчы Паспалітай арганізавала



Паручнік панцырнай харугвы. Паводле гравюры XVII ст. Мал. [illegible] С. Харэўскага

буйную дыверсію ў Пскове: падарвала парахавыя склады крэпасці, якія пільна ахоўваліся стральцамі.

Для баявых дзеянняў розныя віды войска аб'ядноўвалі ў самастойныя палявыя фармаванні. Іх структура магла вызначацца гетманам. Звычайна ад 3 да 15 харугваў конніцы ўтваралі полк. З сярэдзіны XVII ст. была тэндэнцыя рабіць асновай такіх палкоў харугвы панцырных, але абавязкова пакідалі і харугву гусараў. Гетман Я. Радзівіл у 1649 г. у сваім сямітысячным войску пад Лоевам меў 822 гусары, 600 рэйтараў, 2000 казакаў, 1 660 драгунаў, 1 510 пяхотнікаў чужаземнага ўзору і 700 — польскага. Сярод усіх відаў войска сам вялікі гетман найвышэй цаніў чужаземных наймітаў. Маючы ў чэрвені 1654 г. пад Оршай корпус агульнай колькасцю 11 261 чалавек, пісаў з абозу, што ў яго дыспазіцыі толькі 4 тыс. жаўнераў, астатнія — мала на што здатнае па-



Музыкі вайсковыя XVI ст.

спалітае рушанне ды павятовыя харугвы, якія добра калі б хоць ахвоты іншым паддавалі. Каб павысіць баяздольнасць такога войска, Я. Радзівіл звычайна па частках далучаў яго да аддзелаў найманых жаўнераў.

Што да уніформы войска, дык да XVII ст. практычна не існавала агульных стандартных мундзюраў. Вырашэнне гэтай праблемы ў межах пэўнага фармавання было, відаць, у кампетэнцыі яго камандзіра, які вызначаў і пакрой, і колер адзення. Попісы XVI ст. сведчаць, што сярод паспалітага рушання толькі пяхота (драбы) звычайна насілі «барву» — спецыяльнае адзенне блакітнага («аблачыстага») колеру (як і ў польскае пяхоты). Менавіта блакітны колер яшчэ больш замацаваўся сярод пяхоты ў XVII ст., але адрозненні ў адценнях і пакроі формы паасобных аддзелаў заставаліся. Тканіну на «барву» атрымлівала і абслуга артылерыі.

Кожная харугва, рота, кампанія мела ўласны сцяг, колер і сімволіка якога маглі быць розныя. На некаторых змяшчалі герб ротмістра ці пана, на гетманскай — герб гетмана. Уласныя харугвы мелі таксама асобныя групы войска, у прыватнасці — паспалітае рушанне. Жаўнеры мусілі падчас бою асабліва берагчы сваю харугву. Напрыклад, у бітве пад Шкловам у 1654 г., абараняючы ротную харугву, загінула сямёра таварышаў з гусарскай роты. Здабытыя сцягі патрэбна было на працягу 30 гадзін здаць гетману (51. Cz. 2. S. 74).

Як у конных, так і ў пяхотных фармаваннях, нават у выбранецкіх, меліся свае музыкі — трубачы і бубеністы. Музыка выкарыстоўвалася для падачы сігналаў, а таксама для таго, каб уздымаць дух войска.

## 3. ВОЙСКА Ў БАЯВЫХ ДЗЕЯННЯХ

Прафесійныя якасці і вартасці кожнага войска выяўляліся ў баявых дзеяннях, на пабаявішчах, дзе і кожны жаўнер, і правадыр раскрывалі сваё тактычнае ўмельства і ваеннае мастацтва наогул. Тактыка ў сцíслым разуменні — гэта форма і метады падрыхтоўкі і правядзення бітвы ці вайны ў цэлым, узброенага змагання. У літаральным перакладзе з грэцкай мовы гэтае слова азначае «мастацтва, ці ўмельства расставіць войска». У адрозненне ад формы арганізацыі войска, узбраення, ваеннай тэхнікі, ступені развіцця эканомікі краіны, дзяржаўнага ладу ды іншых аб'ектыўных умоў тактыка — гэта цалкам суб'ектыўны фактар, які ўплываў на зыход баталіі. Яна — форма скарыстання наяўных узброеных сілаў і тэхнічных сродкаў у пэўнай аб'ектыўнай сітуацыі. Як умельства рыхтаваць і праводзіць баявыя дзеянні тактыка — гэта творчасць, ваеннае мастацтва.

Для грунтоўнага даследавання тактыкі войскаў беларуска-літоўскай дзяржавы патрэбна максімальна поўнае апісанне праведзеных імі бітваў, чаго для XVI—XVII стст. істотна бракуе. З гэтай прычыны шэраг важных баталій (бітва пад Невелем у 1564 г., пад Шкловам і Цяцерыным у 1654 г., пад Палонкаю ў 1660 г. і інш.) даводзіцца наогул не разглядаць. Пазбягаючы таксама прыкладаў, калі сілы Вялікага Княства ў супольных з польскім войскам кампаніях выконвалі другарадную ролю, можна пакінуць у якасці паказальных бітву на Ведрашы (1500), пад Клецкам (1506), каля Ляпушны (1512), на Крапіўне (1514), пад Кіевам (1527), на Уле (1564), пад Лоевам (1649) і пад Кушлікамі (1661). Пісьмовыя звесткі пра некаторыя з гэтых бітваў таксама вельмі скупыя, тым не менш іх аналіз дазваляе вылучыць некаторыя асаблівасці тактыкі войскаў Вялікага Княства.

Пачатак XVI ст. адкрыў эпоху нябачнай раней агрэсіўнасці Маскоўскай дзяржавы і Крымскага ханства адначасова. Пры новых суадносінах сіл Вялікае Княства амаль два стагоддзі вяло цяжкія абарончыя войны, якія моцна ўплывалі на гаспадарку, на палітычную сістэму, але найперш — на развіццё і стан ваеннай арганізацыі, на войска дзяржавы.

Доўгія гады абарона ад крымскіх татараў была мала эфектыўнай. Наезнікі імкліва ўрываліся і, амаль не затрымліваючыся, рабавалі, хапалі ў палон ды гэтак жа хутка сыходзілі. Супраць іх можна было дзейнічаць таксама максімальна хутка, выкарыстоўваючы веданне тэрыторыі,— пераймаць ці даганяць і навязваць ворагам бітву.

Адным з першых творцаў адмысловай тактыкі, якая зрабіла барацьбу з татарамі больш паспяховай, стаў гетман князь К. Астрожскі. Паводле апісання, пакінутага сведкам — імператарскім дыпламатам Ж. Герберштэйнам, К. Астрожскі не імкнуўся да бітвы з татарамі адразу, калі тыя толькі ўрываліся ў межы Вялікага Княства. Ён асочваў наезнікаў і пачынаў пераслед тады, калі тыя, абцяжараныя здабычай, ужо вярталіся назад. Пераадолеўшы вялікую адлегласць, рабаўнікі знаходзілі бяспечнае месца для адпачынку, спыняліся, рэзалі жывёлу ды балявалі. К. Астрожскі ж, ведаючы пра гэта, рабіў імклівы кідок да іх, і наступную ноч яго войска праводзіла зусім недалёка ад татарскага лагера, не запальваючы вогнішчаў. З першымі праменнямі сонца яно налятала на яшчэ сонных наезнікаў і ўчыняла ім звычайна поўны разгром, а ўцекачоў імкнулася знішчыць у пераследзе.

Так выглядаў узор тактыкі К. Астрожскага ў барацьбе з крымскімі татарамі. Амаль дакладна паводле яго адбылася пераможная бітва з наезнікамі ў 1527 г. пад Кіевам. А вось у 1512 г. пад Ляпушнаю татары паспелі западрыхтавацца да бітвы і нават першымі пачалі яе, заатакаваўшы злучаныя харугвы Княства і Кароны. Дайшло да цяжкай сечы, перамога ў якой дасталася К. Астрожскаму дарагой цаной.

Дастаткова арыгінальным з пункту гледжання тактыкі можна лічыць разгром татараў у 1506 г. пад Клецкам. Адразу пасля атрымання звестак пра іх з'яўленне на Наваградчыне тут было надзвычай хутка сабрана блізу 6 тыс. паспалітага рушання (да якога далучылася таксама польская надворная харугва), гатовага да баявых

дзеянняў. Аднак з прычыны адсутнасці інфармацыі пра месцазнаходжанне галоўных сілаў ворага яно тры дні страціла ў чаканні. Нарэшце выведка знайшла галоўны татарскі кош пад Клецкам — і войска рушыла туды, пераадолеўшы за суткі 80 кіламетраў. Наступную ноч яно правяло недалёка ад Клецка, а перад непрыяцелем з'явілася на світанку. Але раптоўнай атакі не атрымалася: татары, ведаючы пра небяспеку, ужо падрыхтаваліся да бітвы. Да таго ж іх аддзяляла ад беларуска-літоўскага войска рака Лань.

Князь М. Глінскі апынуўся ў складанай сітуацыі: ён мусіў, не адпускаючы наезнікаў, як найхутчэй граміць іх у тых невыгодных умовах, бо ў кожны момант маглі падысці пад Клецк астатнія загоны, якія яшчэ рабавалі Беларусь. Зыход бітвы залежаў перадусім ад рашучасці і таленту правадыра. У гэтым сэнсе тактыка беларуска-літоўскага войска пад Клецкам падобная да ўзораў антычнага ваеннага майстэрства.

Загадаўшы збудаваць дзве гаці цераз Лань, М. Глінскі пад абстрэлам распачаў пераправу дзвюма калонамі. Коштам вялікіх стратаў правая калона, што пераправілася першай, звязала ворага, тады як ачоленая самім князем левая ўдарыла па скучаных татарах і наскрозь прарвалася праз іх. Баявы дух раздзеленых напалам наезнікаў адразу апаў. Адна іх частка кінулася ўцякаць, тая ж, што трапіла ў атачэнне, была цалкам знішчана.

Барацьба з маскоўскімі ваяводамі характарызавалася зусім іншымі прыёмамі. Дзеянні гетмана К. Астрожскага супраць іх былі выключна наступальныя. У 1500 г. яго войска імклівым маршам пераадолела 500 км і з ходу, пераправіўшыся цераз раку, заатакавала ў шмат разоў перасяжныя сілы непрыяцеля. Вядома, што з абодвух бакоў мелася толькі конніца. І калі маскоўскія сілы былі пастаўлены ў традыцыйным баявым парадку, дзялілася на палкі старажавы, перадавы, вялікі і іншыя, дык К. Астрожскі меў харугвы і роты. Спачатку бітва звялася да абмену франтальнымі атакамі і контратакамі, вырашальным жа стаў флангавы ўдар маскоўскага абходнага палка. Заціснутыя непрыяцелем, малалікія харугвы Вялікага Княства зусім не мелі магчымасцей для манеўравання і амаль цалкам загінулі.

Гэтаксама імклівым маршам войска К. Астрожскага ў 1514 г. пераадолела адлегласць ад Вільні да Дняпра і на вачах у непрыяцеля пераправілася цераз раку. Харуг-

вы былі расстаўлены па класічнай траічнай схеме: цэнтр — пяхота з агнястрэльнай зброяй і частка гармат, левае крыло — польская конніца, правае крыло — конніца Вялікага Княства. У засадзе гетман пакінуў амаль усю артылерыю (кулеўрыны). Ізноў бітва пачалася асцярожнымі атакамі і контратакамі, а ў разгар сечы К. Астрожскі скарыстаў адступленне як тактычны ход для наводкі ворага на прыхаваныя гарматы. Пасля таго, як ашаломлены непрыяцель кінуўся ўцякаць, рэшткі яго сілаў зацята пераследаваліся з мэтай захопу ў палон або знішчэння.

Бітва пад Оршай з пункту гледжання тактыкі была шмат у чым наватарская. Тут упершыню адначасова дзейнічалі пяхота, конніца і артылерыя разам. Апошняя, выканаўшы адну з самых важных роляў у разгроме ворага, упершыню ў палявым змаганні займела самадастатковае значэнне. Хоць, вядома ж, галоўным творцам гістарычнага трыумфу над сама меней удвая большым па колькасці ворагам з'яўляўся, бясспрэчна, гетман найвышэйшы.

Над Улаю ў 1564 г. васьмі-дзесяцітысячная беларуска-літоўская конніца на чале з гетманам Мікалаем Радзівілам, Раманам Сангушкам ды Рыгорам Хадкевічам перапяла ўтрая большы маскоўскі корпус і заатакавала яго сярод лясоў. Пра рух ваяводы П. Шуйскага гетманы Вялікага Княства добра ведалі дзякуючы працы сваёй інфармацыйна-выведачнай службы. Праўда, эфекту раптоўнасці дасягнуць ужо ж не ўдалося: маскоўскае войска сустрэла іх падрыхтаванае да сечы. Але спалучаныя імклівая франтальная атака і напад з тылу прымусілі яго шукаць паратунку ва ўцёках. Як і пад Оршаю, пераможцы пяць міляў гналі ахопленыя панікай рэшткі непрыяцеля, здабываючы вялікі палон.

Падобных трыумфаў войска Вялікага Княства дамагалася не толькі ў абарончых войнах з Маскоўскай дзяржавай ці крымскімі татарамі. У 1605 г., падчас вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй, бліскучую перамогу над утрая большым па колькасці непрыяцелем здабыў гетман Ян Караль Хадкевіч, што паходзіў з быхаўскай, найстарэйшай галіны роду. Маючы 2 900 коннікаў (гусараў, казакаў і татараў) і 1000 пяхотнікаў з 7 гарматамі, 27 верасня пад Кіргольмам (Саласпілсам) ён заатакаваў 10 700 шведаў, атачыў іх галоўныя сілы ды, спалучыўшы франтальныя ўдары з абходамі, дазвання разграміў ва-

рожае войска. Шведы страцілі 6 тыс., Хадкевіч — толькі 100 чалавек. Пазней пра гэты трыумф было складзена нямала паданняў. Нават на Чатырохгадовым сойме ў 1788—1792 гг. шляхта, гларыфікуючы сваю конніцу, усё яшчэ прыгадвала Яна Караля Хадкевіча. Апавядалася, што калі той разгубіўся пад Кіргольмам, не адважваючыся з малымі сіламі атакаваць такое шматлікае шведскае войска, гусары сказалі яму: «Атакуй, гетмане,— палічым адразу, як паб'ем» (36. S. 545—546).

Асаблівым талентам як правадыр войска і тактык вызначаўся Януш Радзівіл. У 1649 г. у бітве пад Лоевам ён не меў нават 6 тыс. супраць пятнаццацітысячнага казацкага войска. І хоць палкоўнік М. Крычэўскі хуткімі манеўрамі заблытаў непрыяцеля ды, падышоўшы пад Лоеў, сам ударыў па Радзівілу, той здолеў авалодаць сітуацыяй. Ён павялічыў пяхоту за кошт таго, што дадаў да яе па два пахолка ад кожнага почта конніцы, і, расставіўшы пяхоту з драгунамі па крыллях, а ў цэнтры — часткова спешаную кавалерыю, імкліва заатакаваў казакаў пад абстрэлам. Флангавы ўдар аддзела Паўловіча, які паспеў вярнуцца з Рэчыцы, дапамог давяршыць поўны разгром казацкага войска.

Выдатныя ўзоры еўрапейскага ваеннага мастацтва дэманстраваў гетман і ўлетку 1654 г., калі мусіў стрымліваць у шмат разоў перасяжную царскую армію. Колькасную перавагу непрыяцеля ён ураўнаважваў хуткасцю сваіх манеўраў і бліскучай тактыкай. Менавіта гэта дазволіла яму фактычна выйграць няроўную бітву пад Шкловам.

Бітва пад Кушлікамі 4 лістапада 1661 г. адбывалася зусім не паводле плану, распрацаванаму маршалкам К. Жаромскім і ваяводам С. Чарнецкім. Перад самай атакай маскоўскае войска пачало арганізавана адступаць з абозу пад прыкрыццем моцнага агню сваёй пяхоты. Правае крыло, у якім былі харугвы дывізіі П. Сапегі, наткнулася на падрыхтаваных да бою маскоўскіх стралкоў і моцна пацярпела. Толькі конніца К. Жаромскага, што знаходзілася на левым крыле, хутка адціснула царскую кавалерыю. Двойчы групоўка І. Хаванскага спынялася і стрымлівала націск Жаромскага і Чарнецкага, пакуль тыя канчаткова не зламалі яго абарону. Праслед доўжыўся амаль да Полацка, у які з вялікай арміі ваяводы І. Хаванскага ўвайшло блізу 3 тыс. (7. С. 375—377).

Трэба адзначыць, што лаўры вайсковай славы ў гады

тае вайны амаль цалкам належалі войску рэгулярнаму, якое даўно стала галоўнай сілай. Баяздольнасць жа безнадзейна састарэлага шляхецкага рушання была ці не апошні раз нягоршым чынам прадэманстравана ў генеральнай бітве шляхты Вялікага Княства з войскам Сапегаў пад Алькенікамі. 18 лістапада 1700 г. каля Гарадзенскага тракта трохтысячны аддзел найманых жаўнераў гетмана Яна Казіміра Сапегі сутыкнуўся з аб'яднанымі сіламі шляхты, якія сягалі больш за 12 тыс. Заатакаванае і хутка аточанае шляхтай рэгулярнае войска, пакінутае, дарэчы, гетманам, колькі магло адчайна адбівалася, аднак страціла палову свайго складу і пад вечар мусіла капітуляваць (32. S. 6—7). Мужнасць і рашучасць дзеянняў шляхты была, відаць, выклікана найперш разуменнем таго, што ў гэтай бітве з гегемонам краю вырашаўся яе лёс.

Нават пры самым павярхоўным паглядзе на ваенную гісторыю Беларусі ўражвае пастаянная дыспрапорцыя сіл, пры якой Вялікаму Княству даводзілася весці войны на працягу ўсяго XVI і XVII ст. У асноўных, дастаткова вядомых па крыніцах бітвах, галоўным чынам параможных для беларуска-літоўскай дзяржавы, яе войска колькасна сама мала ўдвая саступала непрыяцелю.

| Год | Месца бітвы | Сілы ВЛК (тыс.) | Сілы непрыяцеля (тыс.) |
|---|---|---|---|
| 1500 | на Ведрашы | 4 | 40 |
| 1506 | пад Клецкам | 6—7 | 12 |
| 1514 | пад Оршай | 30 | 80 |
| 1562 | пад Невелем | 4 | 15 |
| 1564 | пад Улай | 8—10 | 24 |
| 1649 | пад Лоевам | 6 965 | 15 |
| 1654 | пад Шкловам | да 9 | да 20 |

У барацьбе з Маскоўскай дзяржавай фактарам, які доўгі час кампенсаваў колькасны недахоп сіл, з'яўлялася менавіта тактычная перавага. Ваеннае мастацтва беларуска-літоўскага войска было сапраўды вышэйшым. Гэта неаднакроць адзначалі як відавочцы тагачасных войнаў, так і гісторыкі.

Так, выкрываючы недахопы ў парадках сваёй дзяржавы ў параўнанні з суседнімі, Міхалон Ліцвін тым не

менш падкрэсліў, што «маскавіты і татары моцна саступаюць ліцвінам у сіле». Герберштэйн, пабыўшы ў Маскодвіі, заўважыў у тактыцы маскоўскага войска рысы ўсходняй традыцыі: яно дзейнічае раптоўна і хутка, пры першай сутычцы вельмі адважна нападае на ворага, але доўга не вытрымлівае, быццам трымаючыся правіла «Бяжыце, або пабяжым мы» (8. С. 114). У адрозненне ад беларуска-літоўскага маскоўскае войска пазбягала палявых бітваў і старалася захопліваць гарады, пры гэтым не штурмам, але, звычайна, доўгай аблогай. Пра тое ж пісаў у XVII ст. Аўгусцін Маерберг, які адзначыў, што «маскоўскі народ... б'ецца з упэўненасцю ў сабе, калі бачыць сябе за агароджаю сценаў» (11. С. 183). У большасці вялікіх бітваў у чыстым полі маскоўскія ваяводы цярпелі ад сваіх заходніх супернікаў — мусіў канстатаваць С. М. Салаўёў, патлумачыўшы гэта перавагаю ваеннага мастацтва (26. С. 651).

Калі паспрабаваць вызначыць найбольш характэрныя рысы тактычнага майстэрства войска Вялікага Княства па апісаных у крыніцах бітвах, можна адзначыць, што ў XVI—XVII стст. для яго былі ўласцівыя імкненне да адкрытай палявой баталіі; хуткі наступальны рух ды імклівасць манеўраў; раптоўнасць нападу (эфектыўна выкарыстоўвалася пераважна ў барацьбе з крымскімі татарамі); спалучэнне франтальных удараў з флангавымі і тылавымі, а таксама з засадамі; камбінаванне розных відаў узбраення (пачынаючы з 1514 г.) і войска; у выпадку перамогі — перaслед непрыяцеля з мэтаю знішчэння або захопу ў палон.

Храналагічна ранняе спалучэнне конніцы ды пяхоты з артылерыяй (у бітве пад Оршай), трохчасткавая тактычная расстаноўка войска для бітвы (левае крыло—цэнтр—правае крыло), вядомая ў Еўропе яшчэ ў рымскія часы, і шмат чаго іншага — уплыў заходняга ваеннага мастацтва. Тады як імклівасць руху і манеўраў, вялізная роля правадыра, імкненне да пераследу і г. д.— рысы тактыкі ўсходніх народаў, засвоеныя, відаць, у выніку барацьбы найперш з крымскімі татарамі. Тактыка падрыхтоўкі і правядзення бітваў узброенымі сіламі Беларусі і Літвы, адкрытых для ўплываў ужо з прычын геаграфічнага размяшчэння, уяўляла з сябе ў пэўным сэнсе сінтэз усходніх і заходніх традыцый ваеннага мастацтва.

У XVI ст. выразна акрэсліліся і канцэптуальныя прын-



Аблога і абстрэл Смаленска войскам Рэчы Паспалітай. Фрагмент гравюры Г. Келера, 1610 г.

цыпы дзеянняў войска Вялікага Княства Літоўскага — абарона і знішчэнне жывой сілы непрыяцеля, а не інвазія і захоп тэрыторыі, асабліва характэрныя для Маскоўскай дзяржавы. Да гэтых патрэбаў дастасоўваліся і тактычныя прыёмы.

Нягледзячы на схільнасць да «вайны за мурамі», звязанае сваімі задачамі з тэрыторыяй маскоўскае войска ў XVI ст. саступала сілам Княства і ў майстэрстве ажыццяўлення аблогі і правядзення штурмаў. Рыхтуючы штурм непрыяцельскай цвярдыні, апошнія абстрэльвалі яе з артылерыі, імкнучыся зрабіць праломы ў мурах або, калі ўмацаванні былі драўляныя, запаліць сцены спецыяльнымі ядрамі. Калі ўдавалася прабіць ці выпаліць вялікія кавалкі сцяны, ударныя групы пяхоты кідаліся на штурм. Абстрэл звычайна вёўся з некалькіх бакоў батарэямі, прыкрытымі кашамі з пяском ці чым-колечы іншым. У 1649 г. перад штурмам Мазыра гетман Януш Радзівіл загадаў насыпаць вакол горада вал і зрабіць шанцы.

На ўсходнім тэатры вайны асабліва эфектыўнымі былі запальныя ядры, уведзеныя ў шырокае выкарыстанне каралём і вялікім князем С. Батурам. Пасля вызвалення Полаччыны ад маскоўскага войска ў 1579 г. цар Іван IV Жахлівы скардзіўся, што С. Батура яму «Сокол место кулями огненными спалил». Гэтаксама і пры аблозе Магілёва гетманам Я. Радзівілам увесну 1655 г., як наракалі абаронцы, ад яго «вогненных ядраў» усе пасады ў горадзе выгарэлі.

Калі артылерыйскі абстрэл ні да чаго не прыводзіў, рабіліся падкопы пад умацаванні і закладваліся парахавыя міны. Надта ўдалым быў гэты прыём у 1535 г. у Старадубе, калі падземны выбух вырашыў лёс горада. Маскоўскія ваяводы тады ўпершыню пазнаёміліся з такім прыёмам штурму цвярдыні і назвалі яго «лукавством», чым і апраўдвалі сваю паразу: «наперед того в наших странах не бывало подкопывания» (25. С. 11). Аднак пад Псковам у 1581 г. усе спробы разбурыць умацаванні падземным выбухам засталіся без вынікаў. Абаронцы выкрывалі падкопы і закладвалі контрміны. На марна сышлі і падземныя працы ў 1655 г. пад Магілёвам.

Як апошняя форма барацьбы з абложаным горадам ці замкам выкарыстоўвалася блакада. Дзеля гэтага патрабаваліся значныя сілы: каля горада разбівалі ўмацаваны абоз, на ўсіх дарогах ставілі пастаянную кон-

ную старожу (варту). Аднак у ваенным мінулым Вялікага Княства такі прыём мала практыкаваўся.

Падчас маршу войска рухалася калонамі, падзеленымі звычайна на тры групы — пярэднюю варту, галоўныя сілы і тылавую варту. Паміж авангардам, складзеным з лёгкай конніцы, і галоўнымі сіламі (конніца, пяхота, пры наяўнасці і артылерыя) вытрымлівалася адлегласць у сярэднім 20—40 км. Замыкала калоны цяжкая конніца, часта ўмацаваная аддзеламі пяхоты.

Абоз, як правіла, уяўляў з сябе ўмацаваны табар, круглы або паўкруглы ў плане (пад Полацкам у 1579 г. і пад Лоевам у 1649 г. абоз меў форму эліпса). Яго ўтваралі пастаўленыя ў некалькі радоў і змацаваныя ланцугамі вазы, а звонку будаваліся земляныя ўмацаванні, валы або ставіўся проста штыкет. Абозы акопвалі ў тым выпадку, калі войска спынялася надаўжэй і калі існавала пагроза непрыяцельскага нападу. У 1621 г. у Інфлянтах корпус гетмана Крыштапа Радзівіла мусіў акопвацца ўначы, бо даведаўся пра набліжэнне шведаў. Унутры абозу, на пляцоўцы паміж шчыльна састаўленымі жаўнерскімі намётамі мясціліся дадаткова ўмацаваныя часовыя жытлы гетмана і штаба (часам — манарха і двара). Унутраную тэрыторыю абозу перасякалі дзве шырокія вуліцы, што завяршаліся брамамі, каля якіх пастаянна несла службу ўзмоцненая варта (роты коннікаў, а ў XVII ст.— і пяхота).

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Арганізацыя і развіццё ўзброеных сілаў кожнай дзяржавы шчыльна звязаны з яе гаспадарчай і палітычнай сістэмай. Не выпадкова асаблівасці дзяржаўнага ладу Вялікага Княства Літоўскага — слабацэнтралізаванай канстытуцыйнай манархіі (потым — часткі шляхецкай рэспублікі) з дэмакратычным заканадаўствам — абумовілі цэлы комплекс спецыфічных рысаў яго войска.

У адрозненне ад суседніх дзяржаў у Вялікім Княстве практычна не існавала сталага войска (бо хіба можна называць пастаяннымі харугвы наймітаў, што вербаваліся ротмістрамі ў момант ваеннай пагрозы?), не было і спецыяльнага фонду дзяржаўных даходаў, прызначанага для ўтрымання прафесійных жаўнераў. Асноўнай вайсковай сілай тут фармальна заставалася паспалітае рушанне шляхты, хоць у Еўропе часы феадальнага апалчэння адышлі яшчэ ў XVI ст. Яно збіралася толькі ў мэтах абароны краіны пасля супольна прынятай на сойме ўхвалы. Дэмаграфічныя магчымасці Беларусі і Літвы, разам узятых, дазвалялі ў XVII ст. у лепшым выпадку сабраць у земскае войска больш за 20 тыс. ратнікаў, што ўжо само па сабе, па мерках суседніх дзяржаў, было недастаткова, але і гэтая колькасць не збіралася. Шляхта, не адчуваючы асаблівай адказнасці, бо за ўхіленне ад службы ёй не пагражалі сур'ёзныя пакаранні, масава сімулявала. Панаванне шляхты ў палітычным жыцці Рэчы Паспалітай у XVII ст. межавала са злачыннай бяспечнасцю і безадказнасцю ў сферы ваенных інтарэсаў краіны. Мабілізацыя рушання пачала выкарыстоўвацца ёю больш дзеля абароны сваіх шляхецкіх вольнасцей, чым для абароны дзяржавы.

Ідэалогія сарматызму, а таксама рэгіянальныя асаблівасці (вялікая тэрыторыя пры слабой урбанізаванасці

і недахопе дарог змяншалі эфектыўнасць палявога выкарыстання пяхоты ды артылерыі, павялічваючы ролю самага мабільнага віду войска — кавалерыі) некарысна ўплывалі на структуру і тых нешматлікіх узброеных сілаў: насуперак патрэбаў часу тут колькасна пераважала конніца. Дадатковымі фактарамі, што паніжалі эфектыўнасць ваеннай арганізацыі краіны, з'яўляліся абмежаваныя кампетэнцыі гетмана, амаль пастаянная адсутнасць караля і вялікага князя, сваволя шляхты, якая пераходзіла ў анархію, і інш.

Дастаткова высокім ацэнкам сярод характарыстык беларуска-літоўскага войска адпавядала толькі тактычнае майстэрства. Гэтым яно пераўзыходзіла, прынамсі, армію Маскоўскага царства, дзякуючы чаму ўдавалася кампенсаваць недахоп сіл. Аднак толькі пэўны час.

З аднаго боку, дэмакратычны ўнутраны лад, гуманныя прававыя нормы, тэрытарыяльна-адміністрацыйная дэцэнтралізацыя, з другога — кансерватызм, састарэлая сістэма ваеннай арганізацыі пры абмежаваных дэмаграфічных, а яшчэ больш фінансавых сродках асуджалі Вялікае Княства Літоўскае на асабліва цяжкія выпрабаванні ў войнах. Ужо на пачатку XVI ст. войны, і найперш войны з Маскоўскай дзяржавай, сталі бадай галоўным знешнім фактарам дэструктыўнага ўздзеяння на дзяржаву, унутраны механізм якой, здаецца, быў зусім не прыстасаваны да такіх экстрэмаў. Яе войска заўсёды замала і з'яўляецца яно, як правіла, запозна. Ваеннае супрацьборства з Масквой абарочвалася для Вялікага Княства гранічным высільваннем, выклікаючы нават пэўныя дэфармацыі ўнутрыдзяржаўнага ладу.

У 1530-х гадах спроба адваяваць страчаныя раней землі, нягледзячы на ўсе намаганні, скончылася безвынікова. Пасля гэтага ўрока, які даваў, што ўласных сіл у Вялікага Княства замала для паспяховай барацьбы з усходнім суседам, у Вільні больш не спадзяваліся на рэванш. Калі ў выніку чарговай вайны маскоўскія ваяводы акупавалі Полаччыну, Вялікае Княства ўжо не магло самастойна вызваліць яе і пераможна скончыць вайну. Ваенная дапамога Польшчы была настолькі вострай патрэбай, што дайшло да падпісання акта Люблінскай уніі 1569 г. Стварэнне Рэчы Паспалітай і аб'яднанне сілаў толькі на пэўны час адвяло ад беларуска-літоўскай дзяржавы пагрозу агрэсіі. Да сярэдзіны XVII ст. сітуацыя зноў памянялася на карысць Масквы.

Ці магла беларуска-літоўская дзяржава больш паспяхова супрацьстаяць знешняй агрэсіі ў XVI—XVII стст.? Толькі да пэўнай мяжы, бо няроўнасць сіл памнажалася на розніцу дзяржаўна-палітычных сістэм Вялікага Княства і Маскоўскага царства. У іх супрацьборстве перавага звышцэнтралізаванай краіны з таталітарным рэжымам і мілітарысцкай знешнепалітычнай праграмай была гістарычна заканамернай. Дыспрапорцыя ваенна-эканамічных і дэмаграфічных патэнцыялаў няўхільна нарастала. Ужо ў сярэдзіне XVI ст. насельніцтва Беларусі і Літвы складала прыкладна 2,5 млн, тады як у Маскоўскай дзяржаве — прыкладна 6,5 млн чалавек. Далей разрыў павялічваўся, асабліва ў суадносінах вайсковых сіл. Пры пастаянным колькасным росце арміі ў суседніх з Рэччу Паспалітай дзяржавах тут выявілася тэндэнцыя яе пастаяннага скарачэння. Урэшце, пад канец XVII ст. узброеныя сілы Рэчы Паспалітай наогул і Вялікага Княства ў прыватнасці былі настолькі кволыя, што з імі суседзі ўжо мала лічыліся.

Тое войска, якім Вялікае Княства Літоўскае валодала ў XVI—XVII стст., не магло справіцца з задачамі абароны дзяржавы. Аднак і якасна іншай арміі, колькасна дастатковай для вырашэння гэтых патрэбаў, яно проста не магло мець.

# ДАДАТАК

## Шляхецкае войска ў 1528 г. (паводле ўставы віленскага сойму)

| | |
|---|---|
| Віленскае ваяводства | 3 605 коней |
| Троцкае ваяводства | 2 861 |
| Жамойць | 1 855 |
| Падляшша | 1 747 |
| Валынь | 789 |
| Клецк | 60 |
| Гарадок | 21 |
| Рагачоў | 3 |
| Кобрынь | 96 |
| Віцебск | 90 |
| Полацк | 709 |
| Мсціслаў | 98 |
| Пінск | 111 |
| Радамль | 9 |
| Разам | 12 054 |

## Войска, якое ў 1528 г. ставілі князі

| | |
|---|---|
| Канстанцін Астрожскі | 426 коней |
| Юры Алелькавіч Слуцкі | 433 |
| Сангушкі | 170 |
| Вішнявецкія | 84 |
| Мацей Мікітыніч | 79 |
| Заслаўскія | 74 |
| Васіль Палубінскі | 43 |
| Міхал Мсціслаўскі | 32 |
| Хведар Чартарыйскі | 33 |
| Карэцкія | 33 |
| Дубровіцкія | 32 |
| Сакалінскія | 23 |
| Горскія | 22 |
| Сямён Ясмантовіч | 19 |
| Васіль Саламярэцкі | 15 |
| Пётр Галаўня | 17 |
| Васіль Талачынскі | 18 |
| Іван Дуда | 14 |
| Цімафей Крошынскі | 17 |
| Андрэй Капуста | 14 |
| Андрэй Збаражскі | 12 |
| Васіль Чацвярцінскі | 12 |
| Цімафей Пузына | 10 |
| Андрэй Лукамскі | 10 |

| | |
|---|---|
| Багдан Адзінцэвіч | 10 |
| Андрэй Езерскі | 8 |
| Жыжэмскія | 8 |
| Іван Баратынскі | 7 |
| Міхал Асавіцкі | 7 |
| Пётр Духніч | 7 |
| Сенскія | 6 |
| Багрыноўскія | 5 |
| Багдан Дзмітрыевіч | 4 |
| Глінскія | 6 |
| Багдан Свірскі | 5 |
| Любецкія | 7 |
| Васіль Жыленскі | 2 |
| Валадко Іванавіч | 3 |
| Дзімітр Відзеніцкі | 3 |
| Галічынскія | 2 |
| Канстанцін Канапля | 1 |
| Васіль Рагоўскі | 1 |
| Разам | 2 734 |

## Почты паноў у 1528 г.

| | |
|---|---|
| Станіслаў і Мікалай Кезгайлы | 768 коней |
| Радзівілы (Юры, Мікалай, Ян і Эльжбета) | 607 |
| Войцах Гаштаўт | 466 |
| Глябовічы | 279 |
| Забярэзінскія | 258 |
| Осцікавічы | 247 |
| Пётр Кішка | 224 |
| Аляксандр Хадкевіч | 200 |
| Ільінічы | 154 |
| Сапегі | 154 |
| Зеноўевічы | 135 |
| Храбтовічы | 104 |
| Мікалай Пац | 97 |
| Неміровічы | 96 |
| Багавіцінавічы | 93 |
| Мацей Клочка-Яновіч | 65 |
| Разам | 3 947 |

## Татарскае войска ў 1529 г.

| | |
|---|---|
| Харужства князя Івана | 126 коней |
| Сцяг харужага Абрагіма | 118 |
| Харужства Сейжала Мінбалавіча | 82 |
| Харужства Ахмет Улана Асанчуковіча | 109 |
| Харужства Сама Оліжкова | 92 |
| Атаман Нурум Улан | 53 |
| Харужства князя Банька Сенковіча | 76 |
| Клецкія татары | 17 |
| Разам | 673 |

## Земскае войска Вялікага Княства Літоўскага паводле попісу 1567 г.

| Павет | Ваяводства | Коні | Пешая шляхта | Драбы |
|---|---|---|---|---|
| Віленскі | Віленскае | 508 | | 80 |
| Ашмянскі* | « | 686 | 10 | 79 |
| Вількамірскі | « | 653 | 3** | 51 |
| Браслаўскі | « | 81 | | 14 |
| Троцкі | Троцкае | 614 | | 25 |
| Гарадзенскі | « | 714 | 29** | 29 |
| Лідскі | « | 800 | 46 | 41 |
| Ковенскі | « | 694 | | 34 |
| Упіцкі | « | 358 | | 50 |
| Наваградскі | Наваградскае | 450 | 15 | 54 |
| Ваўкавыскі | « | 358 | | 37 |
| Слонімскі | « | 275 | 28** | 52 |
| Берасцейскі | Берасцейскае | 420 | | 52 |
| Пінскі | « | 234 | | 23 |
| Дарагіцкі | Падляшскае | 3752 | 949 | 111 |
| Бельскі | « | 3568 | 438 | 721 |
| Менскі | Менскае | 221 | | 45 |
| Рэчыцкі | « | 44 | | 5 |
| Аршанскі | Віцебскае | 6 | | 3 |
| Мазырскі | Кіеўскае | 24 | | 6 |
| Татары | | 495 | | |
| Разам | | 14955 | | 1512 |

* Разам з Крэўскай і Гераненскай харугвамі.
** Уключаны ў лік «коней».

## Прыватныя почты магнатаў, якія бралі ўдзел у выправе на Вялікія Лукі (1580 г.) (паводле Г. Катарскага*)

| | |
|---|---|
| Ян Валмінскі, кашталян полацкі, стараста крэўскі | да 200 |
| Ян Кішка, стараста жамойцкі | 500 |
| Мікалай Радзівіл, ваявода наваградскі | ? |
| Ян Глябовіч, кашталян менскі | да 500 |
| Яўстах Тышкевіч, ваяводзіч смаленскі | ? |
| Стэфан Збаражскі, ваявода троцкі | да 600 |
| Аляксандр Пуньскі, князь | ? |
| Мікалай Радзівіл, ваявода віленскі, вял. гетман | да 1200 |
| Яўстах Валовіч, кашталян віленскі, вял. канцлер | да 1000 |
| Мікалай Сапега, ваявода менскі | ? |
| Альбрэхт Радзівіл, маршалак надв., стараста ковенскі | да 700 |
| Ваўжынец Война, падскарбі літ., стараста пінскі | да 200 |
| Княжна Слуцкая | да 800 |

* Kotarski H. Wojsko polsko-litewskie pod czas wojny Inflanckiej 1576—1582. Cz. 3. S. 148.

## Прыватныя почты магнатаў, якія бралі ўдзел у Пскоўскай выправе 1581 г. (паводле Г. Катарскага*)

| | | |
|---|---|---|
| Мікалай Радзівіл «Руды», ваявода віленскі, вялікі гетман | 1000 | (?) |
| Мікалай Крыштап Радзівіл, кашталян троцкі, гетман палявы | ? | |
| Мікалай Крыштап Радзівіл «Сіротка», маршалак вял. літ. | 120 | |
| Альбрэхт Радзівіл, маршалак надворны | 60 | |
| Юры Радзівіл, біскуп віленскі | 200 | (?) |
| Станіслаў Радзівіл, князь на Алыцы і Нясвіжы | 100 | (?) |
| Ян Кішка, стараста жамойцкі | 300 | |
| Мікалай Радзівіл, ваявода наваградскі | | |
| Ян Глябовіч, кашталян менскі, падскарбі вял. літ. | 500 | (?) |
| Яўстах Тышкевіч, ваяводзіч смаленскі | | |
| Княжна Слуцкая | 400 | |
| Януш Чартарыйскі, князь | 50 | |
| Мікалай Сапега, ваявода менскі | 100 | (?) |
| Яўстах Валовіч, кашталян віленскі, канцлер вял. літ. | 500 | (?) |
| Мікалай Дарагастайскі, ваявода полацкі | 100 | (?) |
| Скумін Тодар Тышкевіч, падскарбі надворны | 100 | (?) |
| Почт Мельхіера Шэмета | 100 | |
| Філон Кміта, ваявода смаленскі, стар. аршанскі | 50 | (?) |
| Юры Зеновіч, кашталян смаленскі | 70 | |
| Разам | 4000 | |

* Kotarski H. Wojsko polsko-litewskie pod czas wojny Inflanckiej 1576—1582. Cz. 4. S. 86—87.

## Войска Вялікага Княства Літоўскага дывізіі правага крыла (кампут 1661 г.)*

| | |
|---|---|
| Харугва гусарская караля, паручнік пан Палубінскі, пісар палявы | 200 |
| —»— гусарская гетмана, паручнік п. Халецкі, стражнік | 200 |
| —»— панцырная гетмана, паручнік п. Агінскі, маршалак ваўкавыскі | 200 |
| —»— казацкая гетмана, паручнік п. Кос... | 150 |
| —»— казацкая князя Радзівіла, кашталяна віленскага | 200 |
| —»— казацкая р. Глябовіча, старасты жамойцкага | 150 |
| —»— казацкая таго ж, паручнік п. Вяжэвіч | 120 |
| —»— казацкая п. Валадковіча, ваяводы наваградскага | 120 |
| —»— казацкая п. Патоцкага, паручнік п. Дамброва | 120 |
| —»— казацкая п. Палубінскага, пісара палявога, паручнік п. Катоўскі | 200 |
| —»— казацкая п. Слушкі, харужага Вял. Княства Літоўскага | 200 |
| —»— таго ж, паручнік п. Касарэўскі | 150 |

* Medeksza S. F. Księga pamiętnicza. Kraków, 1875. S. 250.

| | |
|---|---|
| —»— пана Крыштапа Сапегі, крайчага Вял. Княства Літоўскага | 200 |
| —»— п. Агінскага, стольніка Вял. Княства Літоўскага, паручнік п. Агінскі | 150 |
| —»— п. Халецкага, стражніка Вял. Княства Літоўскага, паручнік п. Навіцкі | 150 |
| —»— п. Кавалера Юдзіцкага, кашталяна наваградскага, паручнік п. Валадковіч | 150 |
| —»— п. Кміціча, харужага аршанскага, паручнік п. Стэцкевіч | 200 |
| —»— п. Ліпніцкага, старасты сейнейскага, паручнік п. Волэк | 150 |
| —»— п. Абуховіча, падкаморага мазырскага, паручнік п. Бака | 120 |
| —»— п. Стэцкевіча, падкаморага аршанскага | 200 |
| —»— п. Камінскага, харужага мсціслаўскага, паручнік п. Камінскі | 120 |
| —»— п. Баброўніцкага, суддзі земскага берасцейскага, паручнік п. Гурскі | 150 |
| Харугва п. Юдзіцкага, старасты ясноўскага | 120 |
| —»— п. Дольскага | 120 |
| —»— п. Шэмета | 120 |
| —»— п. Хлявінскага | 120 |
| —»— п. Дзяловіча | 100 |
| —»— п. Аскіркі, суддзі мазырскага | 200 |
| —»— п. Мурашкі | 150 |
| —»— п. Станішэўскага | 120 |
| усяго | 4650 |
| Татарскія і валоскія харугвы | 1470 |
| Чужаземныя найміты | 5510 |
| Вугорская пяхота | 680 |
| Разам у правым крыле | 12 310 |

## Войска Вялікага Княства Літоўскага дывізіі левага крыла (кампут) *

*Харугвы гусарскія*

| | |
|---|---|
| Харугва палявога гетмана В. Гасеўскага, паручнік п. Жаромскі | 200 |
| —»— яго ж, паручнік п. Саковіч, ваявода смаленскі | 200 |
| —»— пана Паца, канцлера Вялікага Княства Літоўскага | 120 |
| —»— п. Сесіцкага, харужага вількамірскага | 120 |
| гусараў | 640 |

*Рэйтарская лейбкампанія*

| | |
|---|---|
| Лейбкампанія пана гетмана, ротмістр Дэперман | 120 |
| Рэгімент драгунскі каманды п. Багуцкага | 552 |
| —»— п. Шварцоха | 100 |
| —»— п. Плятэра | 100 |
| рэйтараў | 872 |

| | |
|---|---|
| Харугва панцырная паручніцтва п. Ігнатовіча, стольніка віленскага | 200 |
| —»— паручнік п. Рудамінскі, харужы ашмянскі | 200 |
| —»— паручнік п. Храпавіцкі, стольнік аршанскі | 200 |
| —»— Паца, канцлера, паручнік п. Кашубскі | 120 |
| —»— абознага Вялікага Княства Літоўскага, паручнік п. Акольскі | 150 |
| —»— харужага Вялікага Княства Літоўскага, паручнік п. Шпендоўскі | 120 |
| —»— п. Падбярэзскага, старасты ўпіцкага, паручнік п. Ігнатовіч | 120 |
| —»— п. Абрамовіча, старасты старадубаўскага | 120 |
| —»— п. маршалка вайсковага па Адахоўскім | 120 |
| —»— п. Цеханавецкага, маршалка аршанскага | 120 |
| —»— п. Крошынскага, паручнік п. Белазор | 120 |
| —»— п. маладога Камароўскага, паручнік п. Польскі (?) | 120 |
| —»— п. Млечка, суддзі жамойцкага, паручнік п. Саламановіч | 120 |
| —»— п. Баніфацыя Паца, цівуна троцкага, харужы п. Заблоцкі | 120 |
| Казакаў | 1950 |
| Татарскія харугвы (5) | 690 |
| Драгунія гетмана палявога | 2300 |
| Фрайкампаніі драгунскія (13) | 1840 |
| Пешыя рэгіменты (3) | 1600 |
| Вугорская пяхота | 200 |
| Разам у левым крыле | 10 092 |

* Medeksza S. F. Księga pamiętnicra. S. 253—255.

## Гетманы найвышэйшыя і вялікія

| | |
|---|---|
| 1500—1501 гады | князь Сямён Гальшанскі |
| 1501—1502 | Станіслаў Кязгайла |
| 1503—1507 | Станіслаў Кішка |
| 1507—1530 | князь Канстанцін Астрожскі |
| 1531—1541 | Юры Радзівіл |
| 1553—1566 | Мікалай Радзівіл Чорны |
| 1566—1572 | Рыгор Хадкевіч |
| 1576—1584 | Мікалай Радзівіл Руды |
| 1589—1603 | Крыштап Радзівіл |
| 1605—1621 | Ян Караль Хадкевіч |
| 1625—1633 | Леў Сапега |
| 1635—1640 | Крыштап Радзівіл |
| 1646—1653 | Януш Кішка |
| 1654—1655 | Януш Радзівіл |
| 1656—1665 | Павел Ян Сапега |
| 1667—1682 | Міхал Казімір Пац |
| 1682—1703 | Казімір Ян Сапега |

## АРТЫКУЛЫ ГАРНІЗОНА СЛУЦКАГА 1664 г.*

### Артыкулы, паводле якіх мусіць справавацца ў гарнізоне

1

На варце рана ўсе добашы, як добра пачынае развідняць, павінны на рынку форгадрум біць, за якімі мае прыглядаць добаш рэгіментавы.

2

Пасля адбівання форгадрум у бубны кожны жаўнер павінен станавіцца да свайго афіцэра, які камандуе кампаніяй... Жаўнеры маюць быць на варту камандыраваны, так шмат, як будзе загадана праз пароль ад пана каменданта.

3

Варта ўся павінна сходзіць і станавіцца перад панам камендантам на тым месцы, дзе пан камендант на той час будзе...

4

А калі ўся варта сыйдзе, тады вахмагістарлейтэнант, паведаміўшы пану каменданту, мае на варту камандыраваць так шмат на кожны форт, як пан камендант загадае, і з тымі людзьмі мусіць быць пасланы добры унтэрафіцэр.

5

Гаўбтвахстраж пляцова... заўсёды павінна быць, пры каторым месцы мусяць знаходзіцца два обер-афіцэры — капітан і паручнік, адзін з якіх пры недахопе афіцэраў мае заставацца, пры іх павінен быць адзін пушкар, які раніцай і кожнага вечара абыходзіць і аглядае на валу гарматы.

6

Гаўптобрунда павінна заўсёды сходзіць з гаўптваху, які праводзіць обер-афіцэр, што ў той час будзе мець

* Перакладзена з польскай мовы і адаптавана аўтарам. Друкуецца ўпершыню (Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie. Archiwum Radziwiłłów. Dział VII. Nr. 675).

варту (...) той афіцэр, які на рынку будзе несці варту, павінен абходзіць і пароль таму афіцэру трэба аддаваць, які на обваху будзе на варце, і паведаміць, ці на пастах афіцэры мелі добры пароль.

7

Вахмагістарлейтэнант, як толькі ў звон зазвоняць і пачне добра днець, павінен прыйсці да пана каменданта на ключы, узяўшы ключы, мае ісці да гаўптваху і ўзяць з обваху роту мушкецёраў, ключы ад пана каменданта атрымаўшы, павінен браму адамкнуць і пільна даведвацца ў афіцэраў, што тады на варце будуць стаяць, якія весткі за час сваёй варты мелі.

8

Той жа вахмагістарлейтэнант, зрабіўшы рэляцыю пану каменданту, ключы павінен аддаць да обваху. А калі ўвечары ў гарадскі звон зазвоняць ці калі час пакажа, павінен брамы, роту жаўнераў з обваху з сабою ўзяўшы, пазамыкаць, і ключы обваху аддаць. А пасля забівання цапу той афіцэр, што будзе мець варту на обваху, павінен аддаць ключы каменданту.

9

Пароль або лозунг (гасла) павінен выдавацца паводле меркавання пана каменданта, але пан камендант мусіць перасцерагаць, каб пароль выдавалі своечасова, а гэта дзеля таго, каб сержанты, якія ў брамах варту нясуць, на патрэбны час дасталі гасла.

10

Забіванне цапу летам павінна быць а дзевятай гадзіне, а зімой а гадзіне восьмай, а пасля забівання цапу ніякі шынкар не павінен мёду, піва, аніякага напою даваць, ніякая музыка не павінна іграць, што мусіць той афіцэр пільнаваць, які на рынку варту мае.

11

На ўсялякія святы, гэта значыць на Божае Нараджэнне, на Вялікдзень, у Пятніцу ніхто не павінен важыцца казаць іграць, за выняткам тых, каму пан ка-

мендант, азнаёміўшыся, дазволіць, гэта значыць на вяселлях, на заручынах ды іншых вясельных актах, чаго варта не павінна забараняць.

12

Патрулі штогадзіны павінны хадзіць ад брамы да брамы, гэтаксама і патрулі з рынку па вуліцах штогадзінна маюць хадзіць, а гэта дзеля таго, каб галасы, сваркі, завірухі ў месце не чыніліся. А калі патруль знойдзе на вуліцах таго, хто туляецца, ці жаўнера, ці мешчаніна, ці каго іншага, узяўшы яго, павінен да бліжэйшай варты аддаць. А калі (ён) слушнай справы пра сябе перад тым афіцэрам не дасць, тады яго павінен афіцэр да обваху адаслаць, а потым, азнаёміўшы з тым пана каменданта, той, што будзе на варце, павінен даць аб сабе вывад.

13

Аніякіх сходак, сесій ці кансультацый без ведама пана каменданта не можа ніхто чыніць ці адпраўляць, як са шляхты жаўнераў, так і з паспольства.

14

Суды вайсковыя нідзе не могуць адпраўляцца, толькі ў самога пана каменданта або на тым месцы, дзе пан камендант прызначыць.

15

Калі б здарылася (чаго барані Божа), што агонь раптоўны з падпалу з'явіўся, а на обваху ў бубен ударылі, тады ўсе жаўнеры павінны станавіцца да свайго афіцэра і там чакаць ад яго загаду, але ніхто не можа ісці да агню апрача таго, каго будзе пасылаць афіцэр.

16

Пры з'яўленні непрыяцеля пад фартэцыяй, менавіта калі з гармат і ў бубны абвесцяць трывогу, кожны мусіць ставіцца да свайго афіцэра, жаўнер, шляхціч і мешчанін, або хто іншы, хто будзе на той фартэцыі заставацца, на якой яму прызначаць яго кватэру. А калі б хто заставаўся ў сваёй гасподзе, і да вызначанай кватэ-

ры не спяшаўся, тады кожнага такога той, хто будзе мецъ пляцвах на рынку, павінен загадаць выгнаць, а праціўнага варце ўзяць і адаслаць да пана каменданта.

## 17

А калі Пан Бог дапусціць на тое места, што непрыяцель зможа, падступіўшы, аблегчы фартэцыю, тады ўсе афіцэры павінны сабе прысягнуць, а таксама і жаўнеры, што не могуць таго места і фартэцыі нікому аддаваць, ні адзін ад другога адступацца, пакуль у іх будзе заставацца хоць адна кропля крыві; да гэтай прысягі і хаўрусу павінны належаць як шляхта, так і паспольства і ўсе, хто ў той фартэцыі будзе заставацца.

### Войска Вялікага Княства Літоўскага ў 1700 г. *

| | Гусары | | Панцырныя | | Лёгкая конніца | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Польскі ўзор | харугвы | коні | харугвы | коні | харугвы | коні |
| | 4 | 100 | 26 | 100 | 10 | 100 |
| разам | 4 | 400 | 26 | 2600 | 10 | 1000 |

| | Пяхота | | Рэйтары | | Драгуны | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Чужаземны ўзор | аддзелы | лік | аддзелы | лік | аддзелы | лік |
| | 1<br>4<br>1 | 600<br>300<br>200 | 3 | 100 | 11 | 100 |
| разам | 6 | 2000 | 3 | 300 | 11 | 1100 |

* Паводле Я. Вімэра.

# БІБЛІЯГРАФІЯ


1. Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie. Archiwum Radziwiłłów. Dział VII, Nr. 675, 678.
2. Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Вильна, 1870. Т. 3; 1909. Т. 34.
3. Акты Московского государства. СПб., 1894. Т. 2; 1901. Т. 3.
4. Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. СПб., 1889. Т. 14.
5. Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1867. Т. 4 (Приложение).
6. Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. док. и мат.: В 3 т. Мн., 1959. Т. 1; 1960. Т. 2.
7. Витебская Старина. Витебск, 1885. Т. 4. Ч. 2.
8. Герберштейн Сигизмунд. Записки о Московии. М., 1988.
9. Литвин Михалон. О нравах Татар, Литовцев и Москвитян // Архив историко-юридических сведений, относящихся до России. М., 1854. Кн. 2. Ч. 2.
10. Литовская Метрика. Отдел Первый. Часть 3. Книги публичных дел. Переписи войска литовского. Русская Историческая Библиотека. Петербург, 1915. Т. 33.
11. Майерберг А. Путешествие в Московию барона Августина Майерберга (1661 г.). М., 1874.
12. Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32; 1980. Т. 35.
13. Статут Великого Княжества Литовского 1529 г. Мн., 1960.
14. Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. Тэксты. Даведнік. Каментарыі. Мн., 1989.
15. Polskie ustawy i artykuły wojskowe od XV do XVIII w. Wyd. St. Kutrzeba. Kraków, 1937.
16. Stryjkowski M. Kronika polska, litewska, żmudzka i wszystkiej Rusi. Wyd. 3. Warszawa, 1846. T. 1—2.
17. Volumina legum. Petersburg, 1859. T. 4; 1860. T. 5.
18. Wapowski B. Dzieje Korony Polskiej i Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, 1847—1848. T. 1—3.
19. Грыцкевіч А. П. Беларускія выбранцы // Полымя. 1970. № 11.
20. Довнар-Запольский М. В. Государственное хозяйство Великого Княжества Литовского при Ягеллонах. Киев, 1901. Т. 1.
21. Калинычев Ф. И. Правовые вопросы военной организации Русского государства второй половины XVII в. М., 1954.
22. Лаппо И. И. Конные мещане витебские // Сборник статей в честь В. О. Ключевского. М., 1909.
23. Лаппо И. И. Великое Княжество Литовское во второй половине XVI столетия. Литовско-русский повет и его сеймик. Юрьев, 1911.

24. Любавский М. К. Очерк истории литовско-русского государства до Люблинской унии включительно. М., 1915.
25. Платонов С. Ф. Москва и Запад в XVI—XVII вв. Л., 1925.
26. Соловьев С. М. История России с древнейших времен. М., 1986. Кн. 3. Т. 6.
27. Сташевский Е. Д. Смета военных сил Московского государства в 1663 г. Киев, 1910.
28. Ткачоў М. А. Замкі і людзі. Мн., 1991.
29. Auerbach I. Ivan Groznyj, Spione und Verrater im Moskauer Rußland und das Großfürstentum Litauen // RH. V. 14. Nr. 1/4 (1987).
30. Baranowski B. Organizacja i skład społeczny wojska polskiego w poł. XVII w. // Polska w okresie drugiej wojny Północnej 1655—1660. Warszawa, 1960. T. 2.
31. Bardach J. «Ryskun» i szpieg. Z dziejów służby wywiadowczej w Wielkim Księstwie Litewskim XVI w. // Zeszyty Naukowe. Ser. Historyczna. Nr. 15(48). 1967.
32. Beynar L. Ziemie północno-wschodnie Rzeczypospolitej za Sasów. Wilno, 1938.
33. Borawski P. Tatarskie chorągwie pliemienne w armii Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI i I połowie XVII w. // ABS. XII. 1979.
34. Bystroń J. S. Dzieje obyczajów w dawnej Polsce. Wiek XVI—XVII. Wyd. 3. Warszawa, 1976. T. 2.
35. Herbst S. Potrzeba historii czyli o polskim stylu życia. Warszawa, 1978. T. 2.
36. Kalinka W. Sejm Czteroletni. Kraków, 1895. T. 1. Cz. 2.
37. Kotarski H. Wojsko polsko-litewskie podczas wojny Inflanckiej 1576—1582. Cz. 1—5. // SMHW. T. 16. Cz. 2; T. 17. Cz. 1—2; T. 18. Cz. 1—2.
38. Korzon T. Organizacja wojskowa Litwy w okresie Jagiellońskim // Rocznik Towarzystwa przyjaciól nauk w Wilnie. Wilno, 1909. T. 2.
39. Korzon T. Dzieje wojen i wojskowości w Polsce. Wyd. 2. Lwów—Warszawa—Kraków, 1936. T. 2.
40. Kukiel M. Zarys historii wojskowości w Polsce. Warszawa, 1922.
41. Kukiel M. Zagadka «Artykułów wojennych» 1609 r. a wojskowe prawo karne Wielkiego Księstwa Litewskiego // AW. R. IX. 1934.
42. Łowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983.
43. Nowak T. Sprzęt artylerii polskiej XVI w. w świetle inwientarza z lat 1551—1565 // SMHW. T. 9. Cz. 2.
44. Nowak T. Problem stosowania broni palnej przy obronie i zdobywaniu umocnień przez wojską polskie XVI—XVII w. // SMHW. T. XII. 1966.
45. Ochmański J. Organizacja obrony w Wielkim Księstwie Litewskim przed napadami tatarów krymskich w XV—XVI w. // SMHW. T. 5. 1960.
46. Sikorski J. Zarys historii wojskowości powszechnej do końca XIX w. Warszawa, 1975.
47. Spieralski Z. Geneza i począntki hetmaństwa w Polsce // SMHW. T. 5. 1960.
48. Wimmer J. Wojsko polskie w przededniu wojny Północnej (1699—1702) // SMHSZW. T. 1. 1954.

49. W i m m e r J. Materiały do zagadnienia organizacji i liczebności armii koronnej w latach 1648—1655 // SMHW. T. 5. 1960.
50. W i m m e r J. Wojsko i finanse Rzeczypospolitej w czasie wojny ze Szwecją 1655—1660 // Wojna polsko—szwecka 1655—1660. Warszawa, 1973.
51. W i s n e r H. Wojsko litewskie w 1 połowie XVII w. Cz. 1—3 // SMHW. T. 19. Cz. 1. 1973; T. 20. 1976; T. 21. 1978.
52. W i s n e r H. Działalność wojskowa Janusza Radziwiłła // RB. T. 13. 1976.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

ABS — Acta Baltico Slavica
AW — Ateneum Wileńskie
RB — Rocznik Białostocki
RH — Russian History
SMHW — Studia i materiały do historii wojskowości

# КАРОТКІ СЛОЎНІК ГІСТАРЫЧНЫХ ТЭРМІНАЎ

Абарона земская — удзел у шляхецкім апалчэнні, абавязак несці вайсковую службу на падставе валодання зямлёй.

Аркебуза — лёгкая стрэльба з кольцавым замком у XVI ст. Пазней так у адрозненне ад цяжкіх мушкетаў называлі ўсю лёгкую агнястрэльную зброю наогул.

Армата — гармата; у XVI—XVII стст. у Рэчы Паспалітай так называлі ўсю агнястрэльную зброю.

Арсенал — спецыяльны будынак, прызначаны для ўтрымання зброі і боезапасаў.

Аўтарамент — від, узор арганізацыі і ўзбраення войска.

Бандалет — кароткая аркебуза з колкавым замком, якая з сярэдзіны XVII ст. шырока выкарыстоўвалася конніцай, асабліва казакамі.

Барва — вайсковая уніформа, строй.

Вошчап — дзіда для кідання.

Гакаўніца — тып самай цяжкай ручной агнястрэльнай зброі XVI — XVII стст., вага якой сягала 10—20 кг, дыяметр жалезнай, затым алавянай кулі пераўзыходзіў 20 мм.

Дзела — гармата.

Драб — пяхотнік.

Драгуны — від конніцы, здольнай весці баявыя дзеянні пеша; з'явіліся ў XVI ст. у Францыі, у XVII ст. — у Нямеччыне і затым у Рэчы Паспалітай.

Інвазія — напад, нашэсце.

Кампут — вызначаны соймам колькасны склад найманага войска.

Канфедэрацыя — вайсковы хаўрус, які выходзіў з падпарадкавання дзяржаўным уладам і дамагаўся ад іх пэўных мэтаў.

Картаўн — цяжкая палявая гармата XVI — XVII стст. вагою ад 1 да 6 тон і калібрам 100—230 мм.

Кірасіры — від цяжкай конніцы, якая з'явілася ў Заходняй Еўропе ў сярэдзіне XVI ст., заняўшы месца капійнікаў.

Корд — аднalёзавы кароткі меч.

Лупы — здабыча, трафеі.

Людвізарня — майстэрня па адліўцы і апрацоўцы гармат, званоў і інш.

Марціра — буйнакаліберавая гармата з кароткай руляй, якую выкарыстоўвалі пры абароне або аблозе ўмацаванняў для кідання на непрыяцеля каменных ці металічных ядраў па навяснай траекторыі.

Мушкет — ручная агнястрэльная зброя буйнога калібру (18—20 мм), якая з'явілася ў сярэдзіне XVI ст. у Італіі ды Гішпаніі, затым, з'яўляючыся асноўнай зброяй пяхоты і драгунаў, распаўсюдзілася па ўсёй Еўропе.

Павеза — тып шчыта (тарчы) з дрэва, абцянутага скурай і абітага бляхай. Выкарыстоўвалася пяхотай і конніцай да другой паловы XVI ст.

Почт — вайсковае фармаванне, на чале якога выступаў на земскую службу (ці на агляд) буйны землеўладальнік; складаўся з асабіста залежных або нанятых феадалам для службы людзей.

Прылбіца — цяжкі сярэднявечны шлем з заслонай для твару.

Пулгак — агульная назва кароткай стрэльбы або пісталета ў XVII ст., якія выкарыстоўваліся як у баявых дзеяннях, гэтак і ў паляванні.

Рагаціна — цяжкая даўгая дзіда з масіўным шырокапёрым наканечнікам.

Рэгімент — полк.

Рэйтары — від лёгкай конніцы, што з'явілася ў Заходняй Еўропе ў сярэдзіне XVI, а ў Рэчы Паспалітай — у XVII ст. Асноўным узбраеннем былі аркебуза, пісталет, рапіра.

Сагайдак — камплект з калчана са стрэламі і лука ў налучы.

Серабшчызна — надзвычайны грашовы падатак на ваенныя патрэбы; накладаўся на ўсё насельніцтва, у тым ліку і на мяшчан.

Серпантына — малая палявая гармата, якая страляла аднафунтовымі ядрамі.

Стацыя — палюддзе, прадукты харчавання і фураж, якія збіраліся з мясцовага насельніцтва для ўтрымання войска.

Фалькон — тып гарматы XVI — XVII стст. з доўгай руляй (28—40 калібраў), якая важыла ад 1,2 да 2,5 т і страляла 5—9-фунтовымі ядрамі. Транспартавалі яе 4—6 коней.

Фальканет — паўфалькон, лёгкая палявая гармата вагою да адной тоны, якую маглі цягнуць адзін—два кані.

Цэйкгауз — тое, што і арсенал.

Экіпаванне — рыштунак.

# ЗМЕСТ

Навукова-папулярнае выданне

**Сагановіч Генадзь Мікалаевіч**

ВОЙСКА ВЯЛІКАГА
КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА
Ў XVI—XVII стст.

Загадчык рэдакцыі *А. І. Валахановіч*
Рэдактар *Л. М. Салаўёва*
Мастак *А. Е. Анкуда*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Гоманаў*
Тэхнічны рэдактар *С. А. Курган*
Карэктар *І. Л. Дзмітрыенка*

Здадзена ў набор 14.01.94. Падпісана ў друк 06.06.94. Фармат 84×108[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,20. Ум. фарб.-адб. 4,31. Ул.-выд. арк. 4,06. Тыраж 5800 экз. Зак. № 30.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. 220141. Мінск, Жодзінская, 18. ЛВ № 437. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220141. Мінск, Жодзінская, 18.

